# Голас часу

ННННННННННННННННННННННННННННННННННННННН
Н 35/2/ САКАВІК - КРАСАВІК 1995 ГОД. ГОД ВЫДАННЯ 7 Н
ННННННННННННННННННННННННННННННННННННННН

**Візіт у Лондан Старшыні Беларускага Парламента**

У пачатку снежня мінулага года ў Вялікабрытаніі знаходзілася дэлегацыя на чале са Старшынёй Вярхоўнага савета Рэспублікі Беларусь Мечыславам Гыбам. Разам з ім прыляцеў і вядому беларускі пісьменнік Ніл Гілевіч. Гэта быў першы афіцыйны візіт дэлегацый такога ўзроўню ў Брытанію. На працягу некалькіх дзён праводзіліся сустрэчы з афіцыйнымі асобамі краіны.

6 снежня адбыліся сустрэчы ў Брытанскім парламенце, у дэпартаменце гандлю і прамысловасці, у дэпартаменце, які адказвае за каардынацыю працы ўрада і парламента. У гонар дэлегацыі быў зарганізаваны афіцыйны абед у Палаце Лордаў, на якім прысутнічалі Лорд Лукас, Лорд Тол і інш. Пасля адбылася сустрэча з Лордам Макаем, Канцлерам Палаты Лордаў.

Наступны дзень візіту пачаўся з сустрэчы з Прэзыдэнтам Еўрапейскага Банка Рэканструкцый і Развіцця Жакам Ларыаз'ерам, з якім былі абмеркаваны фінасуемыя банкам інвестыцыйныя праекты для Беларусі. Старшынёй Парламента Прэзыдэнт быў запрошаны наведаць Беларусь. У Форын Офісе М.Грыб сустракаўся з Міністрам Дугласам Хогам, апошні цікавіўся парламенцкімі кантактамі беларусі з іншымі краінамі свету, працэсам разбраення, эканамічным становішчам рэспублікі. Пасля быў зарганізаваны абед у гонар госця. Дэлегацыя цікавілася працай не толькі Парламента Брытаніі, але і мясцовых улад, таму і адбылася сустрэча ў Вестмінстэрскім гарадскім савеце.

Пад час размовы з спецыялістамі Інстытута Адама Сміта па прыватызацыі было адзначана, што трэба выкарыстоўваць вопыт Брытаніі ў гэтай галіне. Спікер Брытанскага парламента Бецці Бутройд дала абед у гонар гасцей. На абедзе прысутнічалі парламентарый ад кансерватыўнай партыі і ад апазіцыі.

Галоўнай падзеяй тыдня была сустрэча дэлегацыі з беларусамі ў бібліятэцы імя Францішка Скарыны, якая існуе ў Лондане. На гэтай сустрэчы выступіў Старшыня Парламенту М.Грыб, які падзякаваў за цёплы прыём, потым Старшыня Камісіі Парламента, вядомы беларускі пісьменнік Н.Гілевіч узяў слова і прадоўжыў гаворку. Дэлегацыя адказала на шматлікія пытанні - прыемныя і непрыемныя. Пасля было прыняццё. Раніцай наступнага дня дэлегацыя вярнулася ў Мінск.



Пад час візіту. Злева направа: Ніл Гілевіч, пісьменнік і член парламента; Мечыслаў Грыб, Старшыня Вярхоўнага Савета; Алег Якавіцкі, консул Пасольства; Яўген Яўменаў, саветнік Старшыні ВС па знешнепалітычных пытаннях.

Падрыхтаваў А.Якавіцкі

ХТО КІРУЕ БЕЛАРУСЬСЮ! ПРЭЗЫДЭНТ ЦІ ПАЛІТРУК?

Мо вядома замежным чытачам з паведамленьняў радыё "Свабода", а мо хто ня меў часу яго паслухаць на пачатку сьнежня 1994 г. і ён ня ведае як адносіцца "прэзыдэнт Беларусі" да мовы народа, гісторыі краіны, якою ён кіруе, да заканадаўчага органа /Вярхоўная рада/, якую ў свой час не ўдалося адправіць у адстаўку не без дапамогі дэпутата Лукашэнка і асабліва яго бліжэйшага сябры, дэпутата Дзімітра Булахава. Аб гэтым сябру тры прафэсары, дактары юрыдычных навук Юры Броўка, Аркадзь Лейзераў і Юры Новік напісалі наступнае: "Ранее он прославился тем, что с помощью своего блестящего красноречия добился отклонения парламентом предложения о проведении референдума на том основании, что сказалось сомнительной незначительная часть подписей избирателей, в то время когда число бесспорных подписей намного превзошло установленую законом минимальную норму". /"Народная газета" № 233. 3-5 сьнежня 1994 г./.

Тады сябры баранілі наменклатурны парламант, выбраны пры БССР без кантролю са стараны выбаршчыкаў пры падліку галасоў. Зараз, калі дэпутат Лукашэнка стаў прэзыдэнтам, гэты парламант не так ужо яму падабаецца, бо не становіцца на "зважай" перад прэзыдэнтам і мае свае меркаваньні, незалежныя погляды.

Ох як добра было пры БССР: дэтупаты зьбіраліся раз у год на тры дні і галасавалі за ўсё, што ім падсоўвалі, бо іх зацьверджаньне не адыгрывала аніякай ролі, усё галасаваньне было сьпектаклем для дурняў, а ўсё, за што дэпутаты галасавалі, даўно дзейнічала на аснове пастановы ЦК КПБ, альбо Саўміна.

Зараз становішча іншае, але чалавеку з замашкамі дыктатара больш да спадобы бальшавіцкія парадкі.

Вось што нядаўна выбраны прэзыдэнт сказаў у Гомелі на нечарговай сесіі абласнога і гарадзкога саветаў, на якіх, па прапановах прэзыдэнта А. Лукашэнкі зацьвярджаліся кіраўнікі абласнога і гарадзкога выканкамаў. Карэспадэнт "Народнай газеты" Анатоль Галоўчыц /у нумары за 3-5 сьнежня 1994 г./ піша аб гэтым так: "У чарговы раз дасталося на арэхі Вярхоўнаму Савету /"такой не нужен"/, нацыянал-радыкалам і беларускай мове, на якой хоча прымусіць размаўляць народ "кучка людзей". Што-ж датычыцца "трасянкі" самога Лукашэнкі, то Аляксандр Рыгоравіч адказаў так: "Ну что ж поделаем, что вырос на границе с Россией такой вот белорус".

Паважаны Аляксандр Рыгоравіч! Калі Вашыя дарадцы ня могуць паказаць Вам кнігу акад. Карскага "Белоруссы", выданую, дарэчы, не сп. Пазьняком, а на пачатку нашага веку, яшчэ пры цару Мікалаю II, то папрасіце ў Смаленскай вобласьці дакумэнтальны фільм аб Смаленску, выпушчаны на экраны ў 1974 годзе, калі Вы, мабыць, вывучалі гісторыю. У гэтым фільме сказана, што смаляне належалі да гэтага самага старaславянскага племя, што і жыхары Крэва на захадзе Беларусі і жыхары Навагрудка. А з аднаго племя не бывае дзьвёх нацыяў.

Так што Вы, Аляксандр Рыгоравіч нарадзіліся сярод беларусаў, толькі захопленых Масквою ў той самы год, калі адбылася так нялюбая Вам Аршанская бітва. Адбылося гэта 480 гадоў таму. Але, калі Балгарыя была пад прыгнётам асманскай імпэрыі 500 гадоў і засталася Балгарыяй, а Ангола была 500 гадоў пад прыгнётам партугальцаў і засталася Анголаю, то чаму Вы, гісторык, нарадзіліся на пагранічы Беларусі і Расеі? І родная мова не падабаецца Вам не таму, што яна "бедная на запас слоў", а таму, што Вы ў свой час дрыжалі за сваю кар'еру, баяліся, каб Вам не прышылі ярлык "нацыяналіста", а інтэрнацыянальнай мовай камуністаў была мова руская. Праваслаўныя сьвятары, сакратары райкамаў, ды і сыстэма навучаньня "вялікага і магутнага" у савецкіх школах утваралі ў маласьвядомых беларусаў

комплекс непаўнацэннасьці іх мовы. /Памятаеце? "Я русский бы выучил только за то, что им разговаривал Ленин!"/.

Як паведамляе дэпутат Гомельскага гарсавету Леанід Епішаў /газэта "Свабода" № 46 за 6 - 12 сьнежня 1994 г. стар. 2/ у Гомелі Вы сказалі: "Людзі, якія размаўляюць на беларускай мове, ня могуць рабіць нічога, як толькі размаўляць на беларускай мове - бедная мова". У сувязі з гэтым у мяне пытаньне да Вас: як-жа гаварыў на беларускай мове аб усім дэпутат С. Шушкевіч, якога менавіта Вы зрабілі галоўным карупцыянерам Беларусі? І яшчэ. Як жа змог выказаць усе пачуцьці на беларускай мове пісьменьнік Васіль Быкаў, якога паважаюць ва ўсім сьвеце і з якога могуць зьдзекавацца толькі камуністы чыкінскага толку. Быкаў застанецца ў гісторыі краіны, як застаўся Адам Міцкевіч, Г. Сянькевіч ў Польшчы, а мо нават Талстой у Расеі. А што напішуць гісторыкі аб першым прэзыдэнце Беларусі, які карыстаўся выключна мовай суседняй дзяржавы? Такога не дазваляла сабе нават Кацярына II, немка па паходжаньню. Такога не дазвалялі сабе выбраныя каралі Польшчы, ці саксонец Аўгуст Моцны, ні швэд Зыгмунт III Аўгуст /Вазы/. Што было-б у гэтай дзяржаве, калі-б Стэфан Баторы спрыяў вывучэньню вугорскай мовы, Аўгуст Моцны - нямецкай, а Зыгмунт III Ваза - швэдзкай, як Вы, Аляксандар Рыгоравіч спрыяеце разьвіцьцю рускамоўнага навучаньня і друку?

Далей Вы сказалі, што беларускай мовай карыстаецца кучка людзей і навязвае свае погляды іншым. А скажыце, пан прэзыдэнт, хто зрабіў кастрычніцкую рэвалюцыю ў Расеі ў 1917 годзе, хіба не кучка прафэсійных рэвалюцыянераў на грошы Кайзэра. Наперад вядзе заўсёды "кучка", бо іншыя проста жывуць, працуюць, размнажаюцца. І гэта кучка чэхаў "навязала" ў Чэхаславакіі чэшскую мову пасьля развалу аўстра-венгерскае імпэрыі. І дбаў аб гэтым прэзыдэнт дзяржавы. Такім і застанецца ў гісторыі першы прэзыдэнт Чэхаславакіі Масарык. А аб Вас што напішуць? Што Вы паніжалі дзяржаўную мову і годнасьць народу, лідарам, правадыром якой афіцыйна лічыліся! Ці хто з Вашых дарадцаў думаў аб гэтым?

Вы, Аляксандар Рыгоравіч, пры ўладзе толькі 6 месяцаў, а пра Вас пішуць амаль анекдоты, быццам Вы сказалі, што зараз ня час разглядаць тое, што прапануе спадар Сапега. Дык што, экзамены Вам залічылі толькі за тое, што Вы былі камсамольскім важаком курсу і ведалі выключна "камуністычны маніфэст". Гэта-ж вельмі шырока практыкавалася ў Савецкіх вышэйшых навучальных установах: пытаць "лёгка", або ўвогуле не пытаць спартсменаў і тых, хто шмат часу траціць на ідэалогію і ня мае часу вучыцца /камсоргі, парторгі курсу/. Бо такім людзям ня трэба ведаць хто такі Пётр Скарга, ці Леў Сапега. Але-ж кіраўніку дзяржавы трэба ведаць гісторыю свае краіны нават калі ён не гісторык. Добра было-б пачытаць і гістарычныя творы, выдадзеныя да рэвалюцыі, калі рускія не баяліся пісаць аб сваіх захопах, каланізацыі народаў і зьдзеках над пераможанымі. Гэта ня тое, што зараз Вы баіцеся "обидеть" захопнікаў. А ў рускую імпэрыю Кацярыны II ніхто не прасіўся, нас "вызвалялі" ад ліцьвінаў войскі рускіх цароў. А ліцьвіны - гэта-ж мы.

М. Бублікаў.

## ВОРАГІ БЕЛАРУШЧЫНЫ!

Той, хто 3-га ліпеня 1994 г. не паехаў у Менск на сьвяткаваньне 50-цігодзьдзя вызваленьня Беларусі ад нямецкай акупацыі і глядзеў дома рэпартажы з гэтага сьвята, быў чямала зьдзіўлена тым, што на гэтым сьвяткаваньні, асабліва ля абэ-

ліска на плошчы Перамогі, не было відаць дзяржаўных беларускіх сьцягоў. За групаю афіцыйных асоб /старшыні Вярхоўнага Савета, прэм'ер-міністра і гасьцей Беларусі, якія ішлі ўскладаць вянкі да абэліска/ нейкі малады хлапец размахваў чырвоным сьцягам; вэтэраны Беларусі ішлі пад так званым сьцягам БССР /чырвона-зялёным/. Маўляў, пад бел-чырвона-белым сьцягам змагаліся паліцыянты, самаахова, БКА, а мы /партыя сабе прысвоіла і барацьбу і перамогу/ змагаліся пад савецкімі сьцягамі!

Калі ў працэсе стварэньня ААН /Арганізацыя Аб'яднаных Нацыяў/ Сталін захацеў мець у гэтай арганізацыі трохі больш галасоў /а не адзін, ад імя СССР, як належала/ ён даручыў дыпламатам даказаць Захаду, што ў яго рэспублікі сувэрэнныя, і, калі СССР змагалася пад Масквою, Беларусь і Украіна змагаліся самастойна, маючы свае партызанскія штабы і партызанскія войскі. Як-бы там не было, але Заходнія краіны пайшлі на кампраміс, прызнаўшы пасьля вайны Беларусь і Украіну сувэрэннымі рэспублікамі, якія маюць права быць прадстаўнікамі ў ААН. Усё было-б добра, калі-б за гарачаю Другою Сусьветнаю вайною не надыйшла халодная, а там і новая гарачая - Карэйская. І калі вынікі галасаваньня набылі большую вагу на ўскрайку пропасьці трэцяй сусьветнай гарачай вайны, у бок дэлегацый Украіны і Беларусі пасыпаліся папрокі, што яны не зьяўляюцца сувэрэннымі, што яны такая-ж частка СССР, як штат Луізьяна - частка ЗША. Каб выратаваць становішча і не страціць галасы, якіх у Сталіна і так было мала ў ААН, ён наказаў зрабіць чарговы "дэмакратычны" зман: даць права ўсім рэспублікам мець міністэрствы замежных спраў, свае сьцягі /з перавагаю чырвонага, савецкага/ і дзяржаўны гімн. Дзяржаўны гімн БССР і дагэтуль выконваецца ў рэспубліцы Беларусь, толькі без слоў. Наменклатуру не задавальняе гімн "Мы выйдзем шчыльнымі радамі" і яна /у тым ліку такая вядомая беларуска, як дачка былога першага сакратара ЦК КПБ-КПСС, Машэрава, увогуле ня ведаючая нават беларускай мовы, але добра ведаючая, які пралетарскі гімн патрэбен народу Беларусі/ ужо тры гады працуе над вызначэньнем новага гімна.

Такім чынам, таварышы вэтэраны, Вы не маглі змагацца пад чырвона-зялёным сьцягам БССР, які вам у рукі ўсунулі сучасныя камуністы, змагаючыся супраць усяго беларускага: мовы /усе камуністычныя газэты выключна на рускай мове/, гістарычнага герба і сьцяга, бо сьцяг БССР зацьверджаны быў у Маскве толькі ў 1952 годзе, а не тады, як вы змагаліся за Беларусь. І стварылі гэты сьцяг з патрэб дыпламацыі, а не сувэрэнітэту!

І вось той, хто чытае газэты, чакалі, што вось-вось зьявіцца калона вэтэранаў-прыхільнікаў Беларускага Народнага фронта /БНФ/, сярод якіх ня толькі самы вядомы наш пісьменьнік Васіль Быкаў, але і іншыя салдаты, партызаны, якім адкрыліся вочы, а мо яны заўсёды марылі аб адраджэньні сапраўднае, а не дыпламатычнае беларускасьці. Хто-хто, а БНФ будзе крочыць пад дзяржаўным сьцягам. А ў рэпартажах ніяк гэтую калону не паказваюць!

Ну, мы вырашылі, што гэта гульні камуністычнае наменклатуры, урад забараніў паказваць на тэлебачаньні, што і вэтэраны ходзяць ня толькі пад чырвонымі сьцягамі.

А назаўтра пачулі мы па радыё, што наменклатура пайшла значна далей у сваёй правакацыйнай дзейнасьці: ВЭТЭРАНАУ ПАД ДЗЯРЖАУНЫМ БЕЛ-ЧЫРВОНА-БЕЛЫМ СЬЦЯГАМ УВОГУЛЕ НЕ ПУСЬЦІЛІ ДА АБЭЛІСКА ПЕРАМОГІ.

Чаму? Каб зразумець гэта, пазнаёмімся з дзьвюмя цытатамі з газэт: І/ Камуністычная газэтка "Мы и время" за 4 ліпеня стр. 2 "Хроніка ДСПС" чытаем: "Минский городской Совет ДСПС І ИЮЛЯ

заявил протест Мингорисполкому в связи с разрешением, выданным БНФ на участие в шествии ветеранов пад бел-красно-белым флагом в день освобождения Белоруссии от немецко-фашысцкіх захватчыков.

Известно, что такой флаг является символом местных пособников гитлеровских палачей.

Минский городской Совет ДСПС расценил решение Мингорисполкома как провакационное и возложил на него ответственность за возможные последствия".

Гаворачы простай, а не дыпламатычнай мовай, за магчымыя правакацыі камуністаў у адносінах да вэтэранаў пад дзяржаўным сьцягам рэспублікі Беларусь.

Але-ж, дазвольце, дэманстрацыі і іх удзельнікі ахоўваюцца міліцыяй, ды правакацыяў яны не дапусьцяць!

Цікава, што у нас, у Нясьвіжскім раёне, супраць партызанаў функцыі карнікаў выконвала нейкае злучэньне казакаў пад трохкаляровым сьцягам імпэрскае Расеі і ў Расеі ніхто не супраць гістарычнага сьцяга імпэрыі, нават камуністы. Спрабаваў-бы Зюганаў брудзіць сьцяг, пад якім Пятро І біў швэдаў, а Кутузаў-французаў. Пракуратура знайшла-б места ў "Матроскай цішыні", каб даказаць камуністу Зюганаву, што нацыянальныя злучэньні мелі права выкарыстоўваць нацыянальны сьцяг, нават, калі гэта былі белыя казакі, ці казакі, якія абслугоўвалі немцаў. Бо яны адзначалі сваю нацыянальнасьць, а не род дзейнасьці. Дарэчы, чаму-ж камуністы Чыкіна не адказваюцца ад свае чырвонае зоркі, калі зараз вядома, што ад рук ОГПУ, ВЧК, МВД, МГБ, на галоўных уборах якіх зьзяла чырвоная зорка, загінула за гады савецкай улады больш невінаватых людзей, чым за Другую Сусьветную вайну, не тое што пры карных апэрацыях. Чырвоная зорка ўся ў крыві, яна дагэтуль не абсохла! Ці мо трэба ДСПС напомніць так званыя "заградительные отряды" стралякшыя ў сваіх? Мо яны таксама былі пад бел-чырвона-белым сьцягам? А да такіх атрадаў нават фашысты, нават за 2-3 дні да свае пагібелі не дадумаліся! Во, чым наш чырвоны сьцяг вызначыўся, спадар Чыкін, які і КПБ і ДСПС і НДБ і сабор "Белая Русь". Во колькі вы арганізацыяў напладзілі з адных і тых-жа людзей, а галасоў выбаршчыкаў колькі сабралі? Выразіцелі дум народных! Калі ваш Новікаў не прайшоў у прэзыдэнты, дык цяпер залямэнтавалі, што і вернага ленінца – Кебіча вам не трэба на пасадзе прэзыдэнта, ні вернага палітрука Лукашэнкі. А наглееце вы не таму, што за вамі народ, а таму, што спадар Шаладонаў, генеральны пракурор, у вас у кішэні і за нацыянальныя сімвалы не заступаецца.

Тыя самыя немцы, якія больш гора прынесьлі на нашу зямлю, чым любыя здраднікі, маюць той самы дзяржаўны сьцяг, што і 50 гадоў таму і спадар Кебіч, якому так не падабаецца наш нацыянальны сьцяг /інакш-бы ён даўно прыкрыў рот ворагам беларушчыны/ кланяецца яму ў Нямеччыне. І літоўцы, карнікі якіх таксама дзейнічалі на Беларусі, і Малдова, сыны якіх былі аж пад Сталінградам і вызначыліся вялікаю ахвотаю да грабяжоў – усе вярнулі сабе гістарычныя сьцягі, перад якімі схіляюць галовы дзяржаўныя мужы іншых краін, у тым ліку і Беларусі. Бо сьцягі вызначаюць нацыянальную прыналежнасьць. І толькі! Няма аддзельных сьцягоў для шчырых і няшчырых, грабежнікаў і законапаслушных, МВД, рабіўшай расстрэлы невіноўных і войска, змагаўшагася на фронце з ворагам. І ні ў адной краіне камуністы не пратэстуюць так апантана супраць нацыянальных сімвалаў, як на Беларусі! Мо гэта таму, што гэтыя сімвалы не родныя для таварышаў Чыкіна, Бумажковай, Качана? Мо і іх родны сьцяг чырвона-сіне-белы, таму і не ўспамінаюць яны, што пад гэтым сьцягам ішоў ня толькі Сувораў, але і Уласаў?

Як бачым, наша генеральная пракуратура не бароніць нашыя

нацыянальныя сімвалы. Самая паганая камуністычная газэтка ці то з Баранавіч, ці то са Слоніма, паганіць, зьневажае нашы сімвалы і расьцьвітае, як тая карупцыя, з якой нібыта змагаецца пан Шаладонаў. Толькі вынікаў барацьбы нешта не відаць!

Паглядзім-жа, ці бароніць гэтыя сімвалы дзяржаўная ўлада, наш урад. Каму падпарадкоўваецца наша міліцыя: закону ці ДСПС і кіруючым ёю камуністам.

Бяром "Народную газету" № 122 за 5 ліпеня 1994 г. і чытаем на стар. 2 афіцыйнае паведамленьне прэс-службы МУС Рэспублікі Беларусь:

"3 июля около 2 тысяч сторонников БНФ... были остановлены сотрудниками милиции на перекрестке проспекта /Ф. Скарыны А. Б./ с улицей Я. Купалы. Им было раз'яснено, что площадь переполнена... Однако приверженцы БНФ проследовали к площади, но на самом подходе к ней были остановлены ветеранскими пикетами. Неоднократные обращения начальника УВД Мингорисполкома к ветеранам с просьбой не создавать препятствий для возложения цветов и венков сторонниками БНФ действия не возымели. Противостояние могло перерасти в серьезный конфликт, и с целью его недопущения между противостоящими сторонами была выстроена цепочка из сотрудников милиции и противостоящими внутренных войск.

Взрывоопасность обстановки была ликвидирована, а в 12.10 сторонники БНФ развернули сваю колону... где возложили цветы к памятнику Я. Купале.

После ликвидации назревавшего конфликта иных нарушений общественного порядка не выявлено."

Як бачым з заявы спадара Цiванава, начальніка прэс-службы МУС, міліцыя спасавала перад камуністамі, а мо і не хацела процідзейнічаць нахабству і парушэньню правоў чалавека з боку тых, хто прывык іх парушаць ад 1917 года. Прашу зьвярнуць увагу і на тое, што спадар, ці таварыш Цiманаў ня толькі апраўдвае парушэньні з боку камуністаў, але і парушае "закон аб мовах" у рэспубліцы Беларусь, так як афіцыйныя заявы і дакумэнты павінны публікавацца ўжо на дзяржаўнай мове, а не на мове суседзяў.

На той-жа старонцы "Народнай газеты" знаходзім сьведчаньне ўдзельніка апісваемых падзей, народнага дэпутата Беларусі Сяргея Навумчыка.

У артыкуле "Камунафашысты зноў прагнуць крыві" ён піша:

"Курсанты пачалі адціскаць калону, упёршыся ў грудзі Васілю Быкаву, Рыгору Барадуліну, вэтэранам, дэпутатам...

"Не пускать! Поднажми!" - чуліся добра пастаўленыя камандзірскія галасы з-за курсанцкіх сьпінаў.

Зьняважаныя, у пакамечанай вопратцы ўдзельнікі вайны ўсё-ж прайшлі праз кардон і рушылі да помніка.

На мосьце над Сьвіслаччу - ланцуг амонаўцаў. Вэтэраны прайшлі і праз яго. Каля плошчы Перамогі шлях нам перагарадзілі ўдзельнікі афіцыйнага шэсьця. Тыя, каго запрасілі сюды ўлады. Наперадзе - маладыя людзі ў чорных кашулях. Былі тут і старыя, ачмураныя хлусьлівай прапагандай. У іх руках - сьцягі СССР, а ў вачах - ненавісьць.

Адразу ўзьнік міліцэйскі кардон.

- Чый загад? - запытаў народны дэпутат Рэспублікі Беларусь Валянцін Голубеў у аднаго з афіцэраў.

- Загад са штаба.

- Дзе гэты штаб?

- У Саўміне. /Савеце Міністраў таварыша Кебіча, дзе бясьпекай займаецца вядомы ўсёй Беларусі таварыш Данілаў. А.Б./.

- Хто яго ўзначальвае?

У адказ - напружанае маўчаньне напалоханага афіцэра.

На жаль, не магу назваць ніводнага прозьвішча, - міліцыя-

неры адмаўляліся называць. Калі я паспрабаваў прайсьці праз кардон, папярэдзіўшы, што зьяўляюся Дэпутатам Вярхоўнага Савета, у адказ пачуў абразу. Адчувалася, што міністр унутраных спраў сп. Данько /камуніст А.Б./, які сам не паважае Закон аб статуце дэпутата, адпаведна выхоўвае і сваіх падначаленых. Але і тут большасьць міліцыянераў - маладых хлапцаў - усё-ж саромеліся пад позіркамі вэтэранаў.

... Дзікунскія, нечалавечыя пагрозы ліліся ў бок вэтэранаў-дэмакратаў. Такія словы супраць тых, хто праліваў кроў за Айчыну, хто змагаўся супраць фашызму, маглі нарадзіцца, прабачце, толькі ў фашыстаў.

Але на грудзях у гэтых людзей былі значкі не з выявай Гітлера. Гэтыя - верныя ленінцы.

- Ну, давай, подходи! - ірваў горла нейкі "молодец" з камсамольскім значком.

/Дык чые загады выконвала міліцыя, спадар Ціваноў, Вярхоўная ўлада, ці гвардыі Чыкіна-Вазьняка? А вы-ж адказна паведамляеце, што супраць вэтэранаў-прыхільнікаў БНФ выступалі вэтэраны! А.Б./.

... У той сьвяточны сонечны дзень мінчане ўпершыню ўбачылі аскал не чужога, а ўласнага, айчыннага фашызму, які пачаў ужо наводзіць "новы парадак".

... Рыгор Барадулін заўважыў, што чырвоныя сьцягі маюць уласьцівасьць з цягам часу пераўтварацца ў карычневыя. Хаця некаторым хочацца падфарбаваць іх сьвежай крывёю. Нажаль, мы ня можам поўнасьцю перадрукаваць усю зьмястоўную зацемку дэпутата ад апазыцыі Сяргея Навумчыка. А ад сябе дадам, аб тым, што там не сказана. Вечарам, ля палацу спорту, калі канцэрт запрапанавалі адкрыць вершам Рыгора Барадуліна, апошні папярэдзіў усіх прысутных аб тым, што чырвоныя сьцягі, пад якімі былая партыйная наменклатура выводзіць людзей на плошчу, пераўтвараецца ўжо ў карычневыя.

Перафразуем словы вядомага рэвалюцыйнага паэта, скажам сваім грамадзянам: камунізм і фашызм - блізьняты, брацьця. Сьцеражыцеся даць уладу хоць адным, хоць другім. І там, і там - канцэнтрацыйныя лагеры, і там, і там беззаконьне, насільле.

ЧАТЫРЫ працэнты галасоў выбаршчыкаў за сакратара камуністычнае партыі гаворыць аб гэтым лепш любых слоў. Гэта было апытаньне народа і яно пацьвердзіла, што гэта ўжо не 1990 год, калі камуністы маглі на выбарах махляваць, як хацелі, а таварыш Сакалоў балаціраваўся ў самым цёмным раёне Палесься і то не дапусьціў кантролю з боку апазыцыі за правідловасьць падліку галасоў. Якбы вы не ўпіраліся, таварышы, вы можаце толькі затармазіць наш рух наперад, але паўстрымаць яго вы ня зможаце, рабіць хоць пяць арганізацыяў з адных-жа членаў партыі, хоць пралетарскія, хоць фашыстоўскія ў дапамогу так званаму народнаму "движению" Беларусі.

Дарэмна, таварышы! Цягнік адыйшоў!

Старшыня суполкі Дэмакратычных вэтэранаў, пісьменьнік Артур Вольскі сказаў тады, 3-га ліпеня ля помніка Янку Купалу:

"Ганьба ня тым хлопцам, якіх выставілі супраць нас, супраць тых, хто мае поўнае права на гэтае сьвята, ганьба тым, хто паслаў іх біць і зьневажаць сваіх бацькоў і дзядоў. Але я не сумняваюся, што надыдзе той час калі мы будзем сьвяткаваць яшчэ адну перамогу - канчатковую перамогу свабоды на нашай роднай Беларусі."

Аляксандар Баханчык,

Нясьвіжчына.

## ЛЮДЗІ СВАЕ ЭПОХІ

Былі людзі трутні, дрэні,
Стаць гатовы на калені
Перад Богам, Сатаною,
Кожнай нечысьцю, манoccю.

Курс трымалі на уладу
І так лезьлі да ураду,
Бо свая наменклатура,
Мафія, апаратура.

Так гадамі кіравалі,
Многа людзям абяцалі
Жыць заможна і шчасьліва,
А жыцьцё стала жахліва.

Бесхрыбетныя стварэньні,
Юдавыя пакаленьні,
Прадавалі бацьку, матку,
За нікчэмную узятку.

Прадавалі, гандлявалі,
Кроў людзкую пралівалі,
Каб стварыць адзін народ -
Савецка-бальшавіцкі зброд.

Што для іх свая дзяржава,
Родна мова, сваё права,
Выгадней быць халуямі,
Як былі ужо гадамі.

Добра так жылося катам,
Падганялі людзей матам
Выпаўняць дзяржавы планы,
А хто не, дык быў сасланы.

Не адна была крамола
Ленінскага камсамола,
А партыйцаў спэцатрады
Былі выбраныя гады.

Падкасіла гэту пошасьць
Гарбачоўская галоснасьць,
Зашумеў народ навокал
І узьняўся быццам сокал.

А старыя камуністы,
Сярод іх і кадэбісты,
Быццам-бы крыху аселі
І у бок Масквы глядзелі.

Камуністы там прайгралі
І па карку атрымалі,
Таму і ў Менску дух упаў,
Лагодны лад запанаваў.

А ва ўрадзе тыя самы
Пяюць песьні старой гамы,
І ўся кліка стала рада,
Што у іх руках улада.

Плашч адзелі дэмакратаў
І нямала "адвакатаў"
Баюць байкі аб свабодзе
А няпэўнасьць у народзе.

Выдалі Закон аб мовах,
Але у такіх умовах
Беларуская дзяржаўна
Аказалася няпраўна.

Быццам габінэт пад змовай
Не гаворыць роднай мовай,
Рускамоўная культура -
Іх уроджана натура.

Спэцы лёгкае работы,
Безадказнасьці, турботы,
Дзейнічалі ціха, скрыта,
Каб трымацца ля карыта.

Ад карыта да багацьця
Крочылі міністры брацьця,
Хітрыкаў было нямала,
А карупцыя спрыяла.

Аднак фартуна завяла,
Ня тога лідэра дала,
Народ ня даўся абрабіць,
Каб нехта мог за нос вадзіць.

Новая прыйшла каманда,
А старая прапаганда,
Прэзыдэнт быццам талковы,
А ня любіць роднай мовы.

А таварышы з камуны,
Быццам-бы вандалы, гуны,
Наступаюць на эмблемы,
Твораць новыя праблемы.

На Пагоню, нашу мову,
Ворагі плануюць змову,
А бел-чырвона-белы сьцяг -
Далейшай барацьбы працяг.

А ў парламэнце міністры
Выступаюць як артысты,
Многа што аб чым гавораць,
А чыю работу робяць?

Дзе улада? Дзе парадак?
Дзе той прэзыдэнт дадатак?
Ці ня бачыць? Ці ня знае?
Што ён у дзяржаве мае?

Калі-б сапраўдны быў урад,
Ён выдаў-бы такі загад:
Шанаваць гонар Айчыны
І ня весьці да руіны.

Уся надзея - "старшы брат",
Той, што вякамі быў нам кат,
Дык памятай-жа беларус,
Што даў табе стары Саюз...?

Ю. В-скі.

Міжнародная Асацыяцыя Беларусістаў
International Association for Belarusan Studies (Belarusists)

Камітэт МАБ
Беларусь 220050, Менск-50
вул. Рэвалюцыйная, 15
Тэл. (0172) 209 350



IAB Committee
Belarus 220050, Mensk-50
Revalucyynaya Str., 15
Tel. (0172) 209 350

---

Мінск, 03.11.94 г.

Бываючы за рубяжом, сустракаючыся з зарубежнымі калегамі ў Мінску, я прыходжу ў жах ад таго, як мала ведаюць пра нашу гісторыю, нашу культуру, нашы складаныя сённяшнія праблемы ў іншых краінах, як цяжка здабываць там адпаведную інфармацыю. Раней зарубежныя беларусісты маглі — няхай праз Маскву — выпісаць нашы газеты і часопісы. Цяпер жа гэта амаль немагчыма. Нават у суседніх Польшчы ці Літве. Нават за долары ці дойчмаркі. Застаецца толькі надзея на інфармацыйныя агенцтвы. Але афіцыйны "Белінфарм", здаецца, асабліваЙ ініцыятывы, каб звесткі пра нас шырока пайшлі па свету, пакуль не праяўляе.

Таму трэба горача падтрымаць ініцыятыву маладога і маладзёжнага інфармацыйнага агенцтва РІД, чые кампетэнтныя і незалежныя паведамленні ўжо знайшлі ў Беларусі ўдзячнага чытача. Прагледжаныя мноЙ бюлетэні вызначаюцца высокім узроўнем.У бліжэйшых планах РІД -- серыі матэрыялаў "Уклад беларусаў у культуры іншых народаў","Светлыя постаці беларускага нацыянальнага Адраджэння", "Дзеячы беларускай эміграцыі" і інш., якія асабліва зацікавяць гуманітарыяў.

Улічваючы усё сказанае вышэй, Міжнародны камітэт беларусістаў даў згоду на цеснае супрацоўніцтва з РІД і рэкамендуе яго бюлетэні сваім сябрам за мяжой, усім спецыялістам, якія цікавяцца Беларуссю.

Прэзідэнт МАБ А. Мальдзіс (праф. А.Мальдзіс)

"МЫСЬЛЁНЦ О ОЙЧЫЗЬНЕ"

Цяжка вясьці палеміку з людзьмі, якія да гэтага часу жывучы на Захадзе, або ў якой іншай дэмакратычнай краіне сьвету, ня ведпюць аснаўных дэмакратычных прынцыпаў і права меншых народаў на сваё вольнае і незалежнае жыцьцё. Манія пасяганьня на чужое, гэта адвечная мара палякаў. Праз сваю заборчую палітыку і неталеранцыю да былых народаў Вялікага княства Літоўскага, Польшча прывяла іх да заняпаду і ўрэшце да ўтраты свае дзяржаўнай незалежнасьці. І нават утрата свае дзяржаўнай незалежнасьці не прамовіла да розуму польскіх палітыкаў, каб зьмяніць свае адносіны да суседзяў на ўсходзе. І гэта мы бачым сёньня.

Калі прэзыдэнт ЗША В. Вільсон згадаў 8-га студзеня 1918 г. у сваёй Дэкларацыі аб устанаўленьні незалежнай Польшчы з доступам да мора, дык палякі пачалі дамагацца граніцы з 1772 году. Таму на Мірнай канфэрэнцыі ў Парыжы брытыйскі прэм'ер міністраў Льлёйд Джордж сказаў палякам:

"П'яная ад сьвежага віна свабоды дадзенай ёй аліянтамі, яна /Польшча/ імкнецца яшчэ раз быць усемагутнай паняй цэнтральнай Эўропы. Самавызначэньне народаў не адказвае яе амбіцыям. Яна палакомілася на Галіцыю, Украіну і частку Беларусі. Галасаваньне насельніцтва становўча адкінула-б яе дамінацыю. Таму, права ўсіх народаў да выбару сваёй дзяржаўнасьці, было зараз-жа адкінута яе лідэрамі. Яна цьвердзіць, што гэтыя розныя народы належалі да палякаў правам збройнага захопу іх продкаў. Як той нармандзкі барон, які, калі яго запыталі паказаць дакумэнт на зямлю, выцягнуў шаблю з похвы..."

І гэта самае было з польскім эміграцыйным урадам у Лондане ў час апошняй вайны. Толькі гэтым разам ён не дамагаўся граніцы Польшчы Першай Рэчы Паспалітай, але ніяк не хацеў уступіць Рыжскую мяжу, якая была да верасьня 1939 году. Гэтай мяжы Польшчы не прызналі яе саюзьнікі заходнія дзяржавы, а затрымаліся на так званай "лініі Керзона". Аднак палякі яшчэ да гэтага часу ня трацяць надзеі на далучэньне Заходняй Беларусі да Польшчы і робяць усё магчымае ў гэтым напрамку. Гэта можна бачыць з артыкула пана Зыгмунта Я. Домбэка "Мысьлёнц о ойчызьне" /Думаючы пра бацькаўшчыну/:

"Думаю аб тым кавалку зямлі, які араў і ўпраўляў мой бацька, дзед і прадзед. Родная зямля належыць цяпер чужым, каторыя на ёй гаспадараць... Край іх продкаў, край дзяцінства: Старая Вілейка, Ашмяна, Нарач і Маладэчна, Наваградак і Баранавічы, Валынь і далей на поўдня... ня ёсьць ужо Польшча. Жывуць там іншыя людзі, хоць гавораць знаёмай, але аднак чужой, бо заборчай мовай...

Так зложылася нашая народная гісторыя, а асабліва ў часе Ягелёнаў, што зямлі Польшчы на захадзе нам убыло, а на ўсходзе прыбыло. Аж нарэшце па 100 гадох зноў знайшліся амаль на той самай тэрыторыі, якую ўзяў у сваё ўладаньне кароль Баляслаў Храбры над Одрай, Віслай і Бугам. Пасьля розных няшчасьцяў, праз якія прайшла наша Бацькаўшчына ў апошнія 250 гадоў, трэба прызнаць, што прыйшлося яму разьвіцца пад духовым кіраўніцтвам каталіцкага Касьцёла". /"Тыдзень польскі", 24.XII. 1994 г./.

Так вось насьвятліў гісторыю палякаў пан Зыгмунт Я.Домбэк. Толькі не сказаў ён, як гэта прыбыло Польшчы зямлі на ўсходзе і ад калі гэта яго бацька, дзед і прадзед пачалі гаспадарыць на Беларусі? На якой гэта зямлі, паводле слоў пана Домбэка, жывуць там людзі, што гавораць іншай мовай? А хто раней жыў на гэтай зямлі да Ягелёнаў, у час Ягелёнаў і па Ягелёнах і на

якой мове яны гутарылі? Гэта, як відаць, пан Домбэк ня ведае на якой мове гутарыў гэты народ з ракон вякоў і на якой мове пісаў свае законы. Для прыкладу тры Статуты Вялікага княства Літоўскага. Аб гэтым варта было-б пацікавіцца пану Домбэку.

Праўду піша пан Домбэк, што народ польскі разьвіўся пад духовым кіраўніцтвам каталіцкага Касьцёла. Толькі гэтае разьвіцьцё нічога ня мела супольнага з рэлігіяй. Была тут не рэлігія а палітыка з усякім праступствам, якія выходзілі ад ксяндзоў і біскупаў польскага Касьцёла і пашыраліся на суседнія Усходнія краіны з блаславенства рымскіх папаў. Гэта было ня толькі стагодзьдзі таму, але мы бачым сёньня што нясуць на Беларусь польскія ксяндзы з блаславенства папы рымскага.

Маецца такі прыклад: Ганна Сухоцка ад імя польскага ўраду падпісала з Ватыканам канкардат у якім сказана, што Ватыкан будзе назначаць біскупаў у Польшчы і гэтыя біскупы павінны быць польскімі грамадзянамі. Дык чаму такое права не ўвёў Ватыкан у іншыя дзяржавы, дзе пражываюць каталікі? А гэта таму, каб не назначаць там мясцовых біскупаў, а засылаць туды польскіх. Найлепшы прыклад - Беларусь, куды наехала чарада польскіх ксяндзоў, а кардынал Сьвёнтэк, пры кожнай нагодзе, падкрэсьлівае сваю польскасьць. Гэта ўжо не рэлігія, гэта ня вера, а праступная палітыка польскага касьцёла і Ватыкана.

Прывядзём тут выказваньні Язэпа Палубятка:

"Што датычыцца каталіцтва, то тут назіраецца звычайная гульня ў палітыку. Калі і можна пачуць тут беларускае слова, то яно, пэўна, кажацца для таго, каб было больш зразумелым так званым "беларускім палякам". Спрэс польскія сьвятары і казаць пра нейкі клопат пра беларускасьць проста дзіва. У тым яны ні ў якім разе не зацікаўлены. Аб гэтым сьведчыць і з'яўленьне польскіх штандараў на касьцёлах, і шматлікія замежныя місіі, і мнагалюдныя вандроўкі нашых вернікаў у Польшчу за кошт іх касьцёла /сустрэчы з папам рымскім у Беластоку, фэстываль каталіцкай моладзі ў Чэнстахове і іншыя дробныя мерапрыемствы/. /"ЛіМ" № 48. 2 сьнежня 1994 г./.

Маецца і такі прыклад з /"Дзёньніка польскага" 29.XII.1994 года/, дзе піша ксёндз - "Бук сен родзі на Бялорусі". Ксёндз гэты, Уладыслаў Блін, родам з Віцебшчыны, якога сям'я па вайне выехала ў Кашалінскае ваяводзтва /Польшча/. Пяць гадоў таму У. Блін вярнуўся ў Магілёў, але ўжо як польскі ксёндз, каб прапаведаваць Евангельле, ды просіць з-за граніцы фінансавай дапамогі для сваёй работы. А работа яго выглядае так, як піша сам ксёндз Блін:

"Найбольшы цуд, які бачыў у нас, стаўся дзякуючы людзям вялікага сэрца. Гэта Вы запрашаеце нашыя дзеці да сваіх сем'яў /у Польшчы/. Перапрашаю за клопат з тымі дзецьмі. Але яны вяртаюцца ўжо да сваіх сем'яў іншымі. Прыходзяць на сьвяткаваньні ў касьцельную залю. У катэдру прыводзяць свае сяброўкі, сяброў. Раз гляджу: Малая дзяўчынка вядзе бацьку ў касьцёл, вучыць яго стаць на калені складае яму рукі, бо ён першы раз у касьцеле".

Калі гэты ксёндз вярнуўся на Беларусь прапаведаваць Евангельле, дык чаму не прапаведуе яго на беларускай мове сярод сваіх прыхаджан?

Тут відзецца яўная акцыя паланізацыі старых "крэсаў усходніх", а цэнтр гэтай акцыі знайходзіцца ў Люблінскім каталіцкім унівэрсытэце. І тут варта паслухаць што піша ў "Настаўніцкай газеце" Пятрусь Капчык, філолаг, выкладчык рускай і польскай моў сярэдняй школы №1 г. Ізяслава Хмяльніцкай вобласьці на Украіне:

"Тры апошнія гады мне даводзіцца мець справу з паездкамі ў Польшчу, якія зьвязаны з вучобай на курсах польскай мовы ў Любліне - горадзе, дзе месьціцца сядзіба фундатара дапамогі польскім школам на Усходзе імя Ганевіча. Менавіта гэтая арганізацыя разам з Настаўніцкім інстытутам паланістыкі і арганізоўваюць вось такія курсы, на якія прыязджаюць настаўнікі польскай мовы з гэтак званага "усходу": Беларусі, Украіны, Літвы, Латвіі, Малдовы, Расіі, Казахстана і Узбекістана, што адразу кідаецца ў вочы на гэтых курсах, дык гэта тое, што амаль палова ўсіх курсантаў прыязджае з Беларусі - краіны, дзе 10 мільёнаў насельніцтва. Другі "цікавы" факт: паміж сабою гэтыя выкладчыкі "чамусьці" не размаўляюць па-беларуску ці па польску, а ... па-руску! Як быццам бы яны прыехалі з Расіі. Асабліва ігнаруюць беларускую мову курсанты з заходніх абласьцей Беларусі - Брэсцкай і Гарадзенскай. Ёсьць ненавісьнікі беларускай мовы і з Віцебскай...

Вяртаючыся з курсаў, яны з галавой кідаюцца праводзіць палітыку "паланізацыі" падрастаючага пакаленьня...

Але тое, што даводзіцца чуць ад выкладчыкаў палякаў на такіх вось курсах, асабліва мяне прымушае задумацца: а куды ж скіраваны зараз інтарэсы польскай дзяржавы?! Адказ з усяго адзін - на той самы "усход", або, як палякі гавораць і пішуць - "на кшэсы всходне"...

Польскі шавінізм адраджаецца шпаркімі крокамі, і праваднікамі і прапаведнікамі ідэй польскага імперскага шавінізму якраз становімся міжволі і мы, настаўнікі польскай мовы, якім убіваюць у галовы падчас курсаў гэтыя самыя ідэі..."

Такіх прыкладаў маецца больш, але з браку месца не магчыма ўсё замясьціць. Толькі паслухаем яшчэ што піша Мікола Кузьняцоў, доктар гістарычных навук, як гэта польскія ўрадавыя дзейнікі і каталіцкі Касьцёл праводзяць сваю работу на Беларусі апошнім часам:

"Пакуль Беларусь развагала, як ёй быць без Расеі, Польшча дзейнічала. У пасьляперабудовачнай рэспубліцы зарганізаваўся Саюз палякаў, аб'яднаўшы звыш 360 тысяч прыхільнікаў, з кастрычніка 1993 года існуе партыя Польскае дэмакратычнае аб'яднаньне, якія ўладкоўваюцца, пачынаюць дзейнічаць. Так, Баранавіцкі саюз палякаў спачатку зьняў пакойчык ва ўтульным асабняку, дзе разьмяшчалася мясцовая бібліятэка. З цягам часу завалодаў усім будынкам, выцясьніўшы бібліятэку. Зроблена ўсё без шуму і тлуму, у вядомых традыцыях езуіцкага ордэна. Усё сьмялей дзейнічаюць польскія прадпрымальнікі, у Мінску пачаў працаваць прыватны камерцыйны ўніверсітэт. Польшча бярэ на сябе цяжар падрыхтоўкі ў сваіх вышэйшых навучальных установах нашых кадраў, ствараюцца культурна-асьветныя і рэлігійныя цэнтры. Ксяндзы ўзяліся за вывучэньне беларускай мовы і дзе-нідзе на ёй правяць імшу, хоць сваіх вернікаў атаясамліваюць з палякамі. Польскія палітыкі ўмацоўваюць сувязі з паўночназаходнім блокам НАТО, баючыся ў той жа час, каб хаця не прынялі туды Расею, прагна жадаюць, але беспасьпяхова, вырвацца з яе ўплываў. Адказныя чыноўнікі ўрада хацелі б, каб дыстанцыравалася ад вялікага ўсходняга суседа і Беларусь. Але парады і крытычныя заўвагі носяць суб'ектыўны характар і не ўлічваюць геапалітычнага і эканамічнага фактараў, якімі кіруецца ў сваёй дыпламатыі Беларусь, і ўмяшаньнем у чужыя справы.

У адпаведнасьці з праводзімай у рэспубліцы нацыянальнай палітыкай, беларускія палякі займелі магчымасьць адкрываць, будаваць свае школы, дзіцячыя дашкольныя ўстановы. Ужо сёньня на Гродзеншчыне звыш 11 тысяч школьнікаў вывучаюць польскую мову. У самім жа Гродне яна выкладаецца ў 10-ці класах як і іншыя прадметы, яшчэ дзесяці класах выкладаньне наогул поль-

скамоўнае. Увогуле тут вучыцца каля 180-ці школьнікаў. Тут плануецца таксама пабудаваць школу на 640 вучняў, дзіцячы садок на 70 дашкалят, інтэрнат для юных талентаў. І, вядома, сугучнасьцю – недалёка – касьцёл. Усе выдаткі бярэ на сябе Польшча. А далейшае – гэта ўжо задачка з дзьвюма невядомымі. Спачатку культурна нацыянальная незалежнасьць, ці адміністрацыйная аўтаномія, а там і далучэньне па "патрабаваньню" большасьці польскага насельніцтва аўтаномнай адзінкі да Польшчы.

Такія мроі надзвычай небясьпечныя для Беларусі, а ў рэшце і для палякаў. Дзіўная рэч, падумалася мне. На працягу многіх гадоў Польшча ніяк не магла пабудаваць у Гайнаўцы, што на Беласточчыне, для беларусаў Польшчы нацыянальна-культурны цэнтр. А тут будуе ў самой Беларусі вялікую школу, цэлы комплекс польскай дыяспары. Нешта тут не так. Газэта "Ніва" расказвае сваім чытачам, што зноў-такі на Беласточчыне, у Грабарцы спалілі праваслаўную царкву, у заняпадзе знаходзіцца беларускі ліцэй. Зьмяншаюцца датацыі дзяржавы на культурна-асьветную працу сярод беларусаў. Калі ў 1983 годзе ўрад Польшчы выдаткаваў на гэтыя патрэбы 16 мільярдаў злотых, то сёлета толькі дзесяць. Як распавядае рэдактар усё той жа "Нівы", дзяцей вучаць таму, што "Польшча – гэта дзяржава ад можа і да можа, а Беларусь – яе ўсходнія крэсы". У 70-я гады ў Польшчы прапагандавалася ідэя адзінай дзяржавы, без нацыянальнага падзелу. Мелі месца і іншыя дыскрымінацыйныя захады ў адносінах да беларусаў. Як распавядаў у друку наш зямляк касманаўт Уладзімір Кавалёнак, ён бачыў на старонках польскага часопіса карту, на якой частка Беларусі пазначана як польская тэрыторыя, а граніцы рэспублікі адсунуты на ўсход. І можна цьвёрда сказаць, што вынікам гэтых захадаў з'явілася тое, што колькасьць дзяцей у беларускіх школах Беласточчыны скарацілася з 13 тысяч да 3 тысяч.

Ці не таму з недаверам ставяцца да захадаў функцыянераў з Саюза палякаў Беларусі нашы так званыя палякі, а па сутнасьці беларусы, толькі запісаныя палякамі па розных прычынах, у тым ліку паводле сямейнай традыцыі бацькоў, акаталічаных, апалячаных у пэўных абставінах нашай шматпакутнай гісторыі. Яны не хочуць аддаваць сваіх дзяцей у польскія школы, хоць прыхільнікі Саюза палякаў не шкадуюць намаганьняў, каб зрушыць справу: ходзяць па кватэрах, расказваюць аб польскіх школах у сродках масавай інфармацыі – безвынікова. Пра тое, што нашы палякі – гэта такія ж беларусы, як і мы ўсе, сьведчаць лічбы: 87 працэнтаў палякаў, што пражываюць у Беларусі, польскую мову ня лічаць роднай. Нарадзіўшыся ў Беларусі, 64 працэнты з іх лічаць роднай беларускую мову, 23 працэнты – рускую. І тыя не менш пішуцца палякамі.

Не карыстаюцца ўвагай ў беларускіх палякаў і польскамоўныя выданьні. Газэта "Глос над Нёманам" /дарэчы, орган Саюза палякаў Беларусі/ выпісваюць не больш як 800 грамадзян Гродна. Спробы выкарыстаць для павелічэньня падпіскі касьцёл жаданых вынікаў не далі. Сёньня колькасьць падпісчыкаў на газету зьменшылася да сямі тысяч.

Імкненьне, такім чынам, да пашырэньня сваёй прысутнасьці ў Беларусі, "ціхага" вяртаньня Польшчы сутыкаюцца з моцным супраціўленьнем беларусаў. Гэта, думаецца, вымушае найбольш экспансіўных з палякаў задумацца...

І яшчэ адна слушная думка. У 1797 годзе ў легіёне Яна Дамброўскага натхнёна і ўрачыста прагучалі словы песьні Юзафа Выбіцкага "Ешчэ Польска не згінэла", якая запала ў сэрцы палякаў. У нас жа ўсё больш усьведамляецца грамадствам не менш велічны заклік "Жыве Беларусь!" Няхай яны акрыляюць нашы народы, а тайныя змовы, інтрыгі і здрады хай парахнеюць на сьве-

тніку гісторыі". /"Чырвоная змена" № 129. I сьнежня 1994 г./.

Такія гэта рэчы адбываюцца сёньня на Беларусі. Вядзецца, як бачым, аднаўленьне старой паланізацыі Беларусі, у якой прымаюць удзел сьвецкія і духоўныя дзейнікі. Няменш у гэтай рабоце зацікаўлены і польскі ўрад, які не шкадуе матэрыяльных і фінансавых рэсурсаў. А што на гэта скажа ўрад Беларусі?

Юры Весялкоўскі.

## МЕЛЬХІЁР І БОГДАН ЧЫЖЫКІ

У Бенедзікта Дыбоўскага, ураджэнца маёнтка Адамарын Вілейскага павету Менскае губерні, які за ўдзел у паўстаньні 1863-1864 г.г. трапіў у Забайкальле, знаходзім у ягоных успамінах наступнае: "/Рузін/ усё прамышляў сумесна з Чыжыкам на паўночных капальнях. Гэты Чыжык мой школьны калега па Менскай гімназіі - летуценьнік ды паэта, які заўсёды выношваў праекты пераўтварэньня чалавека". /Паментнік Дра Бэнэдыкта Дыбовского од року 1852 зачонвшы да року 1878, Львув 1930 с. 536/. Прозьвішча Чыжык вядома кожнаму хто жыве ў Якуцку, бо на вуліцы Багдана Чыжыка № 10 стаяць злавесныя, ядавіта-зялёнага колеру, будыніны з закратаванымі вокнамі - Скурна-Венералагічны Дыспансер. Вуліца, як амаль усе ў Якуцку, названы ў гонар бальшавіка-ленінца. Таму прымаю рашэньне шукаць зьвесткі пра ягоных бацькоў, бо амаль усе нашчадкі сасланцаў за паўстаньне 1863-1864 гг. пайшлі ў рэвалюцыю на баку бальшавікоў, ці вярней, пайшлі змагацца супраць царызму. Прыкладам можа служыць Марыя Аскараўна Авэйдэ, дачка знанага Аскара Авэйдэ, які змагаўся з "сэпаратызмам" К. Каліноўскага. Нарадзілася Марыя ў Вятцы, куды быў сасланы яе бацька. У 1905 г. яна прапагандуе газэту "Іскра". У 1918 г. яе арыштоўваюць белачэхі і вывозяць пад Іркуцк. Там ёй удалося ўцячы. 8-га красавіка 1919 г. расстраляна. /Сергеев Н. "Мария Оскаровна Авэйдэ" в кн. "Вечная слава" Москва 1967 стар. 9-24/.

Шукаю ў якуцкай перыёдыцы. І вось знаходжу патрэбную інфармацыю: "Багданаў бацька Мельхіёр Восіпавіч штабскапітан Маскоўскага грэнадзёрскага палка, у 1863 годзе ўзначаліў паўстанцкі атрад у Віцебскай губерні, за што быў засуджаны да сьмяротнага пакараньня, якое замянілі 20-ці гадамі катаргі". /Струлевич А. "Стойкий Богдан" - Социалистическая Якутия" 11 июля 1972 г./.

Па прыезьдзе ў Менск заглядаю ў "Польскі біяграфічны слоўнік" /бо беларускага пакуль няма, а калі-б і быў то туды-б зьмясьцілі адно членаў Вярхоўнага Савету БССР, іхніх жонак ды мо' старшынь калгасаў/. Ёсьць там артыкул і пра Чыжыка - "Чыжык Мельхіёр /1835 - + ля 1878/, паўстанец, паходзіў са шляхты Менскай губерні. Сын Юзэфа, калежскага радцы. Нарадзіўся ў Менску 21.X.1835 г. Вучыўся ў Полацку, у Канстанцінаўскім корпусе кадэтаў, у 1856 г. стаў падпаручнікам і нёс службу ў грэнадзёрскім корпусе да красавіка 1863 г., калі грэнадзёрскі Маскоўскі полк, у якім ён служыў, атрымаў загад выступіць на Варшаву.

З прычыны нежаданьня біцца з суродзічамі, Чыжык рабіў захады каб пайсьці ў адстаўку, сымуляваў хваробу, але яго адкамандзіравалі да палка, які ўжо знаходзіўся ў Варшаве. Аднак Чыжык паехаў спярша ў Маскву каб выстарацца там якойсьці пасады пры корпусе дзяжурных афіцэраў, але гэта яму не ўдалося. Пасьля паехаў да крэўных у Менскую губерню і там, на пачатку траўня ўступіў у паўстанцкі атрад Барысаўскага павету. Камандзёрам здучаных атрадаў стаў Козел. На гэты час Чыжык меў чын

штабс-капітана і калі Козел палёг у сутычцы пад Уладыкамі, Чыжык, як адзіны кадравы афіцэр, прыняў камандаваньне, але праз тое, што ён быў нядаўні прыбыш, ды ня быў блізка знаны, то большай павагай карыстаўся ў атрадзе Эрнэст Ратынскі, з Вілейскага павету. У жніўні Чыжык са сваім атрадам злучыўся з атрадам Ігуменскага павету, якім камандаваў Ляскоўскі. Калі-ж восеньню Ляскоўскі распусьціў атрад, Чыжыку, як афіцэру, параілі выехаць за мяжу. Чыжык не рызыкнуў на тое падарожжа, а вырашыў ехаць у Пецярбург з мэтаю дамагчыся амністыі. Пехатою ён дайшоў да Віцебска, далей ехаў коньмі да Смаленска, скуль завярнуў на Ельню і фізычна ды духоўна спустошаны, зьявіўся 2.XII.I863 г. да мясцовых паліцэйскіх уладаў з заявaю, што кідае паўстаньне ды дабраахвотна здаецца ў рукі законнае улады. /Паказаньні М.Чыжыка пры дабраахвотнай яўцы яго ў Ельнінскае паліцэйскае ўпраўленьне надрукаваны ў:/"Русско-Польские рэволюцыонные связи". Т. I М., I963 стар. 275/.

Быў дапытаны спецыяльнай сьледчай камісіяй у Менску ад I6 -22.I.I864 г. і ад 25-28.I.I864 г., а потым перад палявым судом пры Менскім батальёне ўнутранай стражы 3.III.I864 г. сваімі паказаньнямі даў шмат матэрыялаў аб паўстанцкай акцыі, у якой удзельнічаў. Вайсковы суд у Менску засудзіў яго да пакараньня сьмерцю, палявы аўдыторат замяніў гэтае пакараньне на пажыцьцёвую катаргу на капальнях. Мураўёў жа зьнізіў тэрмін да 20-ці год. Вядома, што ўжо ў I878 годзе цар Аляксандар II сваім маніфэстам вызваліў яго ад паліцэйскага нагляду і дазволіў абраць месца для жыхарства, акрамя сталіц да губерняў сталічных і заходніх да Каралеўства, з забаронаю паступленьня на дзяржаўную службу". /Меніцкі Р. "Чыжык Мельхіор" - "Польскі Словнік Біографічны" т. IУ Кр. I938. Рэпрынт Вр I989 с - 384/.

Мельхіёр Чыжык падаўся на Мачу, дзе здабывалі золата. Як зазначыў у сваіх успамінах ураджэнец Мешчыны Апалінары Свентарэцкі - Мача гэта "малы Парыж на Якуцкай зямлі". /Ковалевска З. "Зэ вспомнень выгнаньца" Вільна I9II с. I99/. 7 жніўня I899 г. у Мачы ў Мельхіёра нарадзіўся сын Багдан, а калі яму мінула 2 гады Мельхіёр памёр. "Ягоная жонка, Зінаіда Панфілаўна, пасьля сьмерці мужа выехала ў Якуцк, дзе была падстаўным рэдактарам газэты "Якутская Окраина". За непажаданыя ўладам матэрыялы сядзела ў турме. Дапамагала ўцёкам палітычных сасланцаў, хавала іх у сябе. У I92I г. уступіла ў камуністычную партыю". /Струлевич А. "Стойкий Богдан".../. Працаваць Богдан пачаў з I3 год. У I5 стаў грузчыкам на Якуцкай прыстані, а потым і матросам. Пасьля лютаўскай рэвалюцыі - член Якуцкага Савета рабочых дэпутатаў, старшыня прафсаюзу грузчыкаў. 29-га сакавіка I9I8 г. разам з іншымі членамі выканкама быў заарыштованы белымі. /Кротов М. "Богдан Мельхиорович Чижик" - "Календарь знаменательных и памятных дат ЯАССР на I964 г." Якутск I964 г. стар. 72/. Ён быў вызвалены пасьля захопу Якуцка "польскім чырвоным атрадам" Рыдзінскага.

/Апалінары Рыдзінскі пад час першай сусьветнай вайны быў інтэндэнтам шпіталю ў г. Берасьці, які потым быў эвакуіраваны ў г. Срэцэнск у Забайкальлі. /Марколля Т. "Поход в Якутск" - "Польское обозрение" № I4. Варшава I967 г. стар. 5/.

Пасьля свайго вызваленьня з турмы белых Богдан Чыжык адразу ўступае ў партызанскі атрад Парукава, які неўзабаве ля вусьця Вілюя разьбіваюць белыя. Багдана ізноў садзяць у Якуцкую турму. Потым свабода і зноў турма. У I923 г. паступае ў Ленінградзкі Камуністычны ўнівэрсытэт, які заканчвае ў I926 г.

Старая бальшавічка Вера Сінеглазава ўспамінае цікавы эпізод, які адбыўся ва ўнівэрсытэце імя Сьвярдлова, дзе яны вучыліся разам з Чыжыкам. Тады па рашэньню X Зьезду РКП/б/ адбылася чыстка партыі. На агульным сходзе Багдан распавядаў

аўтабіяграфію і назваў сябе рабочым-матросам. З залы адразу раздаліся выкрыкі: "Ніякі ён не рабочы! Тыповы інтэлігэнт!" Багдан быў блізарукі і насіў пэнснэ, што ў тыя часы лічылася прызнакам прыналежнасьці да непрацоўных элемэнтаў. Тады Чыжык назваў партыйны стаж з 1917 году, як і было ўказана ў ягоным білеце. У залі ізноў узьняўся крык: "Гэткі-ж ён член партыі, як і рабочы!" І тут Багдан замест таго, каб адстойваць сваю праўду, заявіў: - Напэўна праўда. У семнаццатым годзе, калі я ўступіў у партыю, я яшчэ не разьбіраўся ні ў Праграме, ні ў Статуце, ды і арганізацыя ў нас была аб'яднаная разам з меншавікамі. Вось ужо ў васямнаццатым я са зброяй і зусім сьвядома змагаўся за Савецкую ўладу. Таму трэба лічыць мой партыйны стаж з восемнаццатага года.Так тады і запісалі. /Струлевич А. "Стойкий Богдан"/.

З 1926 па 1928 гг. Богдан працуе сакратаром Алданскага акругкама партыі, дзе займаўся адбудовай залатой прамысловасьці. Потым /таксама на партыйнай працы/ у Архангельску ды Валагдзе. У 1933-1935 сакратар Алёмінскага райкама.У самы разгар сталінскіх рэпрэсіяў працуе ў Вярхоўным Савеце ЯАССР /1935 -1938/. Потым у Дзяржплане СССР, наркамаце юстыцыі і г. д. З 1950 па 1962 працаваў дырэктарам Якуцкай рэспубліканскай бібліятэкі імя А. С. Пушкіна, зараз Нацыянальная бібліятэка рэспублікі Саха. /Вельмі-ж ужо ў ёй дзіўны каталёг у краязнаўчым аддзеле. Не па альфабэце, як паўсюдна, а па годзе выданьня. Калі адразу не запішаш зьвесткі пра знойдзеную кнігу на картцы, то потым ужо марна яе адшукаць не перарыўшы ізноў усе карткі/. У 1959 г. Богдан Чыжык атрымаў званьне Заслужанага Работніка Культуры ЯАССР. /Тахватулин Г. "Кырдьагас большевиги чиэстэпин" - "Кыым" 1959, атырдьах ыцын 26к. /Пасьля сьмерці Багдана выканкам Якуцкага гарсавета пераіменаваў вуліцу Пяцілеткі ў вуліцу Багдана Чыжыка. /"Именем Большевика" - "Социалистическая Якутия" 6 августа 1972 г./.

А. Баркоўскі

## ШТО З ТАГО І ДА ЧАГО

Што з таго, што хочацца сонца і волі,
Калі хмары над намі гурбою вісяць.
За доўгія гады савецкай нядолі
Нас навучылі як Радзіму зьняважаць.

Згубілася мова ў народзе - няўдача,
А чужая прыліпла, як п'яўка да нас.
З царквы стаўся сьвіран, - старая задача,
А ўсё гаспадарскае пайшло у калгас.

Вучылі дзяды нас загон хлебам сеяць,
Каб ня сеялі, не далі-б нам ізноў.
Няма такой сілы, каб гора разьвеяць
І гнаць чужакоў - прыблудаў бальшавікоў.

Што гэта за ўлада і што яна значыць...
Каб мог яе ўцяміць народ наш малады.
Дзеці ў хатах плачуць, мала хто іх бачыць,
Ды дапамогі просяць ужо праз гады.

Ці чуеце, братцы, як плачуць дубровы?
Ці чуеце, сёстры, стогн роднае зямлі?
"Браты" зноў куюць нам на рукі аковы,
А мы шчэ ня знаем, дзе гэта мы былі?

Мы марым аб шчасьці, а сілы ня маем,
Каб нашай дзяржавай, народам кіраваць,

Мы слухаем, верым, ды самі ня знаем
Каму верыць, каго сярод нас выбіраць?

Мо прыйдзе той час і народ наш прачнецца
І скіне з вяршынь "былых" і "нашых братоў",
Зямля наша родна сілаю нальецца,
Народзіць Радзіма дастойных валатоў.

Жывём мы з надзеяй што сонца засьвеціць
І нехта павядзе нас да волі ізноў,
А іншы аб "адзінстве" усё-ж так і меціць,
Бо ніяк не жывецца яму без "братоў".

Каб дух беларускі над кожнаю хатай
У песьнях і мове падтрымоўваў сваіх
І стане Радзіма сьвядомай, багатай,
Без просьбы насланых дабрадзеяў чужых.

Надзя Дземідовіч.

На 1110-я ўгодкі сьмерці
архіепіскапа Мяфодзія.

## АРХІЕПІСКАП МЯФОДЗІ І ЯГОНАЯ ДЗЕЙНАСЬЦЬ

З прычыны нястачы месца ў часопісе, мы памінём маладыя гады жыцьця будучага арх. Мяфодзія і прыезд яго з братам Канстанцінам у Маравію. Прыехалі яны не адны, а з групай людзей на запросіны тагачаснага князя Расьціслава, дзеля пашырэньня хрысьціянскай веры на славянскай мове ў ягонай дзяржаве. Выканаўшы першую частку свае работы, яны вярталіся ў Канстантынопаль, каб высьвяціць епіскапа для Маравіі. Знайшоўшыся ў Вэнэцыі, славянскія місіянеры былі запрошаны папам Мікалаем І прыбыць у Рым, каб асабіста абараніць арганізацыю свае славянскае Царквы, бо папа быў супраць такіх замераў. Пакуль яны прыехалі ў Рым, папа Мікалай памёр і яго заступіў папа Адрыян ІІ. Славянскія місіянеры абаранілі слушнасьць свае Царквы і тут неспадзявана, 14-га лютага 869 году памёр брат Мяфодзія Канстанцін-Кірыл, які быў галоўным місіянерам, філёсафам. Тут трэба памятаць, што двух салунскіх братоў - Канстанцін і Мяфодзі, праводзілі сваю славянскую дзенйнасьць у юрысдыкцыі папы рымскага, а былі місіянерамі Канстантынопальскай Царквы.

Сьмерць брата Канстанціна-Кірылы ў Рыме стварыла новыя камплікацыі для Мяфодзія і нядаўна высьвячаных сьвятароў. Ніхто ня знаў якое становішча зойме цяпер папа і як глядзіць на гэтую справу новае кіраўніцтва ў Канстантынопалі. Славянскія місіянеры сядзелі ў Рыме і чакалі. Але стварыўшуюся сытуацыю разьвязаў князь Коцаль. Ён, праўдападобна, даведаўся праз сваіх людзей што сталася ў Рыме з кіраўнікам славянскай місіі і выслаў сваё пасольства да папы з просьбай, каб прыслаў да іх Мяфодзія - "нашага настаўніка".

Мяфодзі вярнуўся з Рыму ў Панонію да Коцаля, каб там прадаўжаць і разьвіваць сваю місіянерскую работу на славянскай мове, як гэта было запачаткована з братам, памершым епіскапам Кірылам. Але Панонія належала да юрысдыкцыі сальсбургскага арцыбіскупа і Мяфодзі ня хочучы падпарадкавацца нямецкаму арцыбіскупу, вярнуўся ў Рым. Прасіў ён папу, каб надаў Паноніі незалежную юрысдыкцыю з уласнай герархіяй. Просьба Мяфодзія была задаволена і ён вярнуўся ў Панонію ў сане архіепіскапа на ўсю Маравію /870 г./ і ў Сьмірнум /Мітровіца/ залажыў сваё Архіепіскапства. Адгэтуль, праз наступныя 15-ць гадоў, будзе Мяфодзі весьці змаганьне з нямецкімі інтрыгамі.

Дзейнасьць Мяфодзія і падтрымка яго папам Адрыянам II былі не да спадобы немцам і яны шукалі спосабу, каб зьмяніць такі ход справы. Сьвятаполк адміністраваў па князю Прыбіне ў Нітры і маючы вялікія амбіцыі да ўлады, даўся намовіць Карламану, сыну Людовіка Немца. Яны заатакавалі Вялікамараўскую дзяржаву і Сьвятаполк подступам узяў у палон свайго дзядзьку Расьціслава. У траўні 870 году Сьвятаполк аддаў Расьціслава Карламану ў Баварыю, дзе Людовік Немец пасудзіў яго ў здрадзе і сказаў на кару сьмерці, але прыгавор сьмерці ня выканаў, а асьляпіў Расьціслава і трымаў яго закутым у нейкім манастыры дзе па ім загінуў сьлед.

З упадкам Расьціслава на Маравах наступіла дэзарганізацыя. Гэта выкарыстаў Карламан і без ніякага супраціву пачаў апаноўваць краіну славян і насаджваць сваіх стаўленікаў. Мала таго, што Сьвятаполк аказаўся ашуканы немцамі, але стаўся нават іхнім вязьням. Маравіяй пачалі кіраваць нямецкія намесьнікі са сваімі лацінскімі місіянерамі. Прысутнасьць немцаў на Маравах аказалася няшчасьцем для місіі архіепіскапа Мяфодзія. Ягоная работа і так была ўтрудненай, а без падтрымкі дзяржаўнай улады аказалася амаль немагчымай. У такіх абставінах архіепіскап Мяфодзі прадаўжаў сваю пастырскую дзейнасьць.

Сальзбургскі арцыбіскуп Дыхбальд, маючы ў сваіх руках князя Сьвятаполка і палітычны нагляд над Маравіяй, выступіў з афіцыйным пратэстам, што "нейкі грэк, Мяфодзі, пашырае пагарду да імшы лацінскай". Баварскія біскупы паразумеўшыся з Людовікам Немцам, склікалі свой сынод у Ратызбоне /Рэгэнзбург/ на каторы паклікалі Мяфодзія. На саборы закідалі Мяфодзію ўсякую ўсячыну, як гэрэзію, нарушэньне правоў баварскіх біскупаў на іхняй тэрыторыі і т. п.

На закіды немцаў арх. Мяфодзі бараніўся стойка і адказваў аргумэнтамі, зазначыўшы, што ў сапраўднасьці гэта яны, немцы, праз сваю пыху і хцівасьць пайшлі паза граніцы царкоўнага права. Працiўнікаў сваіх Мяфодзі не пераканаў аргумэнтамі, а толькі абурыў.

У сапраўднасьці ратызбонскі сынод ня меў права судзіць Мяфодзія, каторы быў архіепіскапам. Суд над архіепіскапамі, у юрысдыкцыі папы, належаў да папы. Але тут не хадзіла нямецкаму духавенству аб рэлігійныя каноны і рэлігійную мараль. Яны бачылі ў асобе архіепіскапа Мяфодзія свайго ворага і рабілі ўсё, каб яго пазбыцца. Не абыйшлося і без насьмешак і зьняваг, як біцьцё па твары і замахваньне бізуном. Пасьля розных зьдзекаў паставілі Мяфодзія на сьнезе і марозе чакаць пакуль сынод вынясе свой прыгавор. А прыгавор быў такі, што сынод пазбавіў архіепіскапа Мяфодзія царкоўных функцыяў і пасадзіў яго ў манастырскую турму ў Швабіі /87I г./ дзе праседзеў ён каля трох гадоў.

Здавалася, што паложаны быў канец славянскай місіі, славянскай літургіі і самому архіепіскапу Мяфодзію, бо ніхто ня мог заступіцца за яго. Ягоны пратэктар папа Адрыян II памёр у 872 годзе і кіраўніцтва ў Рыме абняў папа Ян УIII, які ня меў таго зразуменьня да славянскай літургіі што папа Адрыян II. Асьлеплены князь Расьціслаў дагараў недзе ў швабскай турме без ніякай весьці, а Канстантынопаль быў далёка і меў свае старыя непаразуменьні з Рымам. І так адзінокі архіепіскап Мяфодзі церпяліва зносіў пакуты ў нямецкай турме, а баварцы падсылалі сваіх місіянераў у Маравію.

Сьвятаполк за сваю здраду таксама цярпеў кару. Яго арыштавалі немцы і абвінялі ў вераломстве. Мараўскі народ бачыў, што ў іхняй дзяржаве дзеецца беспарадак, беспраўе, і падняў паўстаньне. Нават славянкі сьцягвалі баварцаў з коней і білі

іх палкамі. У такім рэвалюцыйным настроі народ змусіў сьвятара Славаміра абняць кіраўніцтва ў краі /871 г./, каб утрымаць парадак. Славамір карыстаўся даверам народу і яго дзейнасьць насьцярожыла немцаў.

Каб усьмірыць народ Маравіі, непазьбежна было арганізаваць другую экспэдыцыю. На гэты час удалося Сьвятаполку ачысьціцца з пастаўленых яму закідаў і ён згадзіўся дабраахвотна вясьці франконскае войска супраць збунтаваўшыхся мараўцаў. Калі баварцы падыйшлі пад галоўную мараўскую крэпасьць, Сьвятаполк, пад прэтэкстам нахіліць паўстанцаў да капітуляцыі, увайшоў у горад, зрабіў з паўстанцамі саюз і разам разьбілі яны баварцаў. Заімпанованыя сваёй перамогай, славяне выгналі ўсіх нямецкіх ксяндзоў і зьвярнуліся да папы, каб вярнуў ім Мяфодзія, архіепіскапа і настаўніка.

Наступныя дзьве экспэдыцыі немцаў на Маравію ў 872 і 873 гадох былі пасьпяхова адбіты. У выніку гэтых ваенных дзеяньняў быў заключаны трактат у Форхгэйм /874 г./, які прынёс Вялікамараўскай дзяржаве фармальную незалежнасьць, а з ёю нутраную стабілізацыю.

Паступак нямецкіх біскупаў у Ратызбоне над архіепіскапам Мяфодзіям быў ня толькі што незаконным, але быў ён адначасна вялікай зьнявагай для аўтарытэту папы і яго Царквы ў Рыме. Прамаўчаць гэта было немагчыма, пакольні, яшчэ ня так даўно славянская літургія рэспэктавалася Рымам. Былі слухі, быццам Канстантынопаль выслаў сваю дэлегацыю ў Рэгэнзбург на чале з архіепіскапам Агатонам, каб навязаць з Людовікам Немцам прыязныя адносіны. І тут папа Ян УІІІ заварушыўся ды пачаў рабіць энэргічныя захады, каб выпусьціць на свабоду архіепіскапа Мяфодзія. Папскі легат, Павал з Анконы, паехаў у Баварыю да самога Людовіка Немца і там праўдападобна наступіў кампраміс. Мяфодзія выпусьцілі з турмы і ён мог вярнуцца да свае працы на Маравах, аднак яму было забаронена адпраўляць багаслужбу на мове славянскай. Дазволена было толькі навучаць пaславянску.

Цяжка сказаць, каб папа Ян УІІІ /872-882/ быў вялікім прыхільнікам немцаў. Ён, як бачым, бароначы свой аўтарытэт, зрабіў захады, каб выпусьціць на волю архіепіскапа Мяфодзія, з другога боку прымірыў дыспуту "філіоквэ" з Усходняй царквой і не накідаў ён свае ўлады, як гэта стараліся рабіць некаторыя папы. Відаць, што папа Ян разумеў неразважныя пастулкі папы Мікалая І, якія ўвялі непатрэбны закалот сярод хрысьціянскай еднасьці. І тут трэба прызнаць аб'ектыўна, што за папы Яна УІІІ на рэлігійным фронце паміж Усходняй і Заходняй царквой наступіла замірэньне. Але ў сваёй юрысдыкцыі папа Ян УІІІ не хацеў прымірыцца са славянскай літургіяй, ён аказаўся яе праціўнікам.

З нямецкай турмы архіепіскап Мяфодзі прыехаў у Маравію да Сьвятаполка і быў радасна вітаны народам. Памінуў ён Панонію, свайго добрага прыяцеля князя Коцаля, а гэта таму, што баварскія біскупы загадзя пастараліся загразіць Коцалю, што калі ў яго затрымаецца Мяфодзі, то гэта ня выйдзе яму на добра.

Ня трацячы часу архіепіскап Мяфодзі ўзяўся за свае пастырскія абавязкі. З яго рук прынялі ў 874 годзе хрысьціянства чэшскі князь Барывой з жонкай Людмілай і чэшскія рыцары, якія наведалі двор Сьвятаполка. Жонка Барывоя была вялікай прыхільніцай славянскага абраду. Не сьвятаром быў Павал, вучань Мяфодзія, які хрысьціў Вацлава, што сёньня зьяўляецца сьвятым чэхаў. Мяфодзі навучаў чэхаў хрысьціянскай веры, высьвячаў новых сьвятароў і абходзіў з імі вялікую дзяржаву Сьвятаполка.

Каб спыніць місіянерскую дзейнасьць Мяфодзія, нямецкае духавенства пусьціла ў ход фальшывыя лісты быццам Мяфодзі пазбаўлены свайго становішча папам. Пайшлі ў ход даносы, абвінавачаньні, а нават рабіліся спробы нападаў на падарожнічаючага Мяфодзія. Усёй гэтай нікчэмнай работай кіраваў нямецкі біскуп Віхінг з нейкім Янам з Вэнэцыі.

Праз сваю настойлівасьць немцы дабіліся, што папа Ян VIII у сваім пісьме ад 14-га чэрвеня 879 году забараніў архіепіскапу Мяфодзію адпраўляць літургію на славянскай мове. Ён пісаў: "Табе асабіста забаранілі адпраўляць урачыстую імшу ў гэтай мове, а толькі па-лаціне або па-грэцку". Папа рабіў закіды Мяфодзію, што ён уводзіць народ у блуд навучаючы іначай, як гэта робіць Рымская царква.

Архіепіскап Мяфодзі не паслухаў папы, а надалей карыстаўся славянскай мовай у сваёй літургіі. Папа паклікаў архіепіскапа ў Рым, каб ён вытлумачыў, чаму навучае нязгодна наказаў Апостальскай сталіцы і чаму адпраўляе літургію на "варварскай", гэта значыць славянскай мове? З ім разам прыехаў у Рым і Віхінг, лідэр франконскага сьвятарства, як галоўны абвінавацель. На царкоўным судзе стойкі манах з Гары Алімп ня толькі што ачысьціўся ад усякіх зробленых на яго закідаў, але сумеў пераканаць папу ў слушнасьці свайго становішча і славянскай літургіі.

/Заканчэньне наступіць/ Ю. Весялкоўскі.

## ПРЫЧЫНА ХАТНІХ І МІЖНАРОДНЫХ ВОЙНАЎ
/Для прыкладу - Югаславія/

У Першую Сусьветную вайну Аўстра-Мадзярская Імпэрыя мабілізавала харватаў у сваю армію супраць сэрбаў. Сярод наваброванцаў, 25-га пяхотнага палка створанага ў Загрэб, быў малады 21 год Ёсіп Броз, які пазьней прыняў імя "Ціто". Аб тым часе вайны Ціто хаваў свой удзел у кампаніі, якая забіла 132 тысячы сэрбаў з ліку 250 тысяч, якія ваявалі супраць наступу аўстрыяцкай арміі на Сэрбію.

Пасьля заканчэньня Другой Сусьветнай вайны Югаславіяй кіраваў Ціто. Кіраваў ён жалезнай рукой і срога распраўляўся са сваімі праціўнікамі. Ціто не талераваў этнічныя і рэлігійныя розьніцы. Каб замацаваць сваю ўладу ён паклікаў на суд некаторых усташаўцаў з "незалежнай харвацкай дзяржавы". Аднак камуністычны ўрад Югаславіі не хацеў парушаць рэлігійную справу, а праступствы харватаў каталікоў, у адносінах да праваслаўных сэрбаў, злажыў на "фашызм". Сэрбская Праваслаўная царква ня мела шансы прадставіць сваю справу ваеннаму трыбуналу Аб'яднаных Нацыяў, аднак дзейнасьць усташаўскай дзяржавы Харватыі была пасуджана.

Вясной 1945 году Ціто меў спатканьне са Стэпінацам і дараджаў яму супрацоўнічаць з новым урадам у кіраваньні царквой у Югаславіі і быць больш незалежным ад Рыму, а як не то стане перад судом як ваенны крыміналіст і супрацоўнік калабарантаў усташаўцаў. Стэпінац адмовіў спаўпрацу з камуністамі і быў суджаны. Суд над арцыбіскупам Стэпінацам праходзіў адкрыта. Запрошана была заходняя прэса, каб пасьля не было абвінавачваючых камантараў. Працэс ішоў дзесяць дзён. Разам са Стэпінацам судзілі і ягоных падуладных за калабарацыю з ворагам, з усташаўскімі праступнікамі-забойцамі, за перахрышчваньне праваслаўных, за канспірацыю з замежнымі дзяржавамі каб забясьпечыць іхнюю інтэрвэнцыю ў Югаславію. Агульная віна арцыбіскупа заключалася ў невыкананьні сваіх духоўных абавязкаў. 11-га кастрычніка 1946 году арцыбіскупу Алёйзіе Стэпінацу, за

ягонуе "пастырскую дзейнасьць", суд адчытаў 16 гадоў цяжкіх работ. Але арцыбіскуп цяжка не працаваў, па двух гадох выпушчаны быў на волю.

За "зьнявагу" арцыбіскупа папа экскамунікаваў усіх тых, хто прымаў удзел у "нявінна арыштованага і суджанага арцыбіскупа Стэпінаца". Бо-ж папа Пій Х-ты пастанавіў 9-га кастрычніка 1911 году, што ксёндз не павінен быць паклікены на суд нават тады, калі зрабіў найбольшае праступства.

Аднак арцыбіскуп Стэпінац скампраметаваў сваю царкву адмовіўшы пасудзіць праступствы свайго духавенства, якое нават само прызналася да мардэрстваў, а другія як біскуп Сараева Марiч і біскуп Любляны Рожман, ды шмат другіх духоўных і сьвецкіх, баючыся народнага гневу і пакараньня, пакінулі Югаславію.

Акрамя арцыбіскупа Стэпінаца судзілі яшчэ дзевяцёх францішканаў з якіх трох унявінілі. Прысуд быў адчытаны 11-га кастрычніка 1946 году.

Аднак Ватыкан не прызнаў віны за сваім духавенствам і 29-га лістапада 1952 году надаў Стэпінацу годнасьць кардынала. Памёр Стэпінац 10-га лютага 1960 году і пахованы ў катэдры Загрэбу за аўтаром.

Душы памардованых сэрбаў, жыдоў і цыганоў каталікамі Харватыі патрабуюць ад папы рымскага прызнаць віну свае іерархіі і вернікаў, і, як гэта зрабіў Вілі Бранд у Аўшвіц, на каленях пакаяцца.

Па сваёй натуры Ватыкан любіць гуляць у палітыку. Агульна вядома што папа Пій XII быў вялікім прыяцелям немцаў і пазьбягаў адкрыта ці скрыта пасуджаць іхнія паводзіны ў час вайны. Аднак, дзеля людзкога вока, папа выказаў спачуваньні Бэльгіі, Галандыі і Люксэмбургу, калі гэтыя краіны былі акупованыя немцамі бяз дай прычыны. Але, калі немцы акупавалі Данію, Нарвэгію, Югаславію, або была акупована Грэцыя, папа не адазваўся, а гэта таму, што жылі там пратэстанты і праваслаўныя. Хоць былі яны хрысьціянамі, але не таго Бога і ня той канцылярыі якой загадваў папа Пій XII. Калі-ж немцы наехалі Савецкі Саюз, дык зараз за імі пацягнуліся выхаванцы з "Руссікум", групы нямецкіх і польскіх езуітаў з мэтай устанавіць там каталіцкі лад, але гэта ім не ўдалося. Гітлер не хацеў уводзіць у гэтых краінах рэлігійнай вайны, для яго было лепш гаварыць аб вызваленьні Праваслаўнай царквы ад камуністычнага прыгнёту, як уводзіць каталіцкую веру, якая нямала прынесла бяды і няшчасьця, асабліва на Беларусі у час польскага панаваньня.

Калі зараз пасьля вайны пачалося атамнае збраеньне, у 1949 годзе папа Пій XII, каб узмацніць антыбальшавіцкую ідэалогію, экскамунікаваў каталікоў, якія былі камуністамі, або падтрымоўвалі камуністаў. А ягоныя каталіцкія тэолагі ў Амэрыцы пачалі гаварыць, што абавязкам Амэрыкі ёсьць прымяніць атамную бомбу, каб уратаваць Захад ад камунізму. Але якія насьледствы выкліча атамная бомба для мірнага насельніцтва, аб гэтым каталіцкія тэолагі не клапаціліся.

Палітыка Ватыкана, гэта палітыка міжнароднага замяшаньня, або прыпадабаньня. Асабліва імя папы Пія XII-га было вядомае як чалавека двудушнага. Ягоныя прафашыстоўскія і пранямецкія сымпатыі былі вядомы даўно. Быў ён ад 1917 да 1929 году рэпрэзэнтантам Ватыкану /нунцыям/ у Нямеччыне. А калі выбралі яго, як кардынала Яўгена Пацэлі, на папу 2-га сакавіка 1939 году, дык ён першаму аддаў пашану Гітлеру. Аб гэтым гаворыць зьмест дэпэшы амбасадара Трэцяга Райху пры Ватыкане, Дiего Бэргэна, да міністра заграунічных спраў Рібэнтропа, неадкладна па выбары папы і ягонай візыты ў яго: "Папа, катораму заступ-

нік Сакратара Стану пераказаў на маю просьбу гратуляцыю ад Фюрэра і Канцлера, а таксама ад ураду Райху, прыслаў апошняй ночы навіну, што хоча прыняць мяне сёньня рана. На аўдыенцыі, у час каторай паўтарыў гратуляцыі, папа падкрэсьліў, што я быў першым амбасадарам, каторага ён прыняў і жадаў пераказаць праз мяне асабіста сардэчнае дзякуй для Фюрэра і Канцлера. Да гэтага дадаў найбольш шчырыя пажаданьні для нямецкага народу..."

На прыняцьці нямецкіх лётчыкаў у Ватыкане 4-га лютага 1941 году папа сказаў, што ёсьць "шчасьлівы прыняць іх" і благаславіў.

Ці былі гэта сапраўдныя сымпатыі папы Пія XII да немцаў, ці былі яны выкліканыя небясьпекай для ягонай царквы праз немаральныя паводзіны ягоных ксяндзоў у Нямеччыне, цяжка сказаць. Але каталіцкія ксяндзы сталі перад нямецкім судом. На гэту тэму піша Станіслаў Янкоўскі: "Каб не дапусьціць да больш складаных праблем ватыканскага клеру і каб паўстрымаць судовыя ўлады праводзіць сьледзтва далейшых судоў, Касьцёл Ватыканскі заключыў з Гітлерам цікавую ўмову, на аснове якой Гітлер адклікаў усе абвінавачваючыя акты супраць немаральных ксяндзоў і францішканаў, а нямецкія біскупы выдалі пастырскі ліст, які заклікаў каталікаў да падтрыманьня палітыкі Гітлера. Лісты гэтыя былі зачытаны ва ўсіх каталіцкіх касьцёлах 30-га жніўня 1936". /"Гжэхы жымскіх папежы", Толедо, ЗША/.

Усё-ж папа Пій XII быў прафашыстоўскі датуль, пакуль фашызм кіраваў Заходняй Эўропай. Калі-ж стала вядома, што Гітлер вайну прайграе, тады і папа далучыўся да змоўшчыкаў забойства Гітлера. Гэта забойства мела, быццам, ўратаваць Нямеччыну ад краху. Але ня так лёгка было зглaдзіць Гітлера, хоць ахвотнікаў хапала, толькі не знайходзілася рашучага чалавека. Ватыкан інфармаваў змоўшчыкаў, каб дзейнічалі хутчэй, калі хочуць заключыць асобны мір з Аліянтамі. Нарэшце знайшоўся каталік, граф вон Стоўффэнбэрг, які 20-га ліпеня 1944 году падлажыў бомбу ў бункеры Гітлера. Бомба ўзарвалася, забіла некалькі генералаў, але Гітлер застаўся жывы. І тут пачалася масакра апазыцыі. Некаторыя маршалы, генералы, папоўнілі самабойствы. Агулам было зьнішчана 4.980 жанчын і мужчын.

Бачучы трагэдыю, Ватыкан хутка загадаў сваёй нямецкай іерархіі выказваць спачуваньні Гітлеру. Пачаліся малебны ўдзячнасьці ў каталіцкіх касьцёлах Нямеччыны са сьпевам "Тэ Дэум". Кардынал Фаульгабэр выслаў ад сябе і сваіх біскупаў гратуляцыю Гітлеру. Але ўсё гэта аказалася дарэмна. Ані гратуляцыі, ані малітвы не ўратавалі Гітлера. Прыйшлося Ватыкану наладзіць супрацоўніцтва з Аліянтамі.

Праўду пісаў у свой час польскі нацыяналіст Раман Дмоўскі, які быў у Ватыкане ў час Першай Сусьветнай вайны і пагутарыўшы з папам сказаў, што ніколі ня можна верыць Ватыкану ў палітычных справах.

Апошнім часам Ватыкан многа не гаворыць аб падзеях у Югаславіі бо чуе за сабою віну ў гэтай краіне. А была гэта не адна віна, не адна праступная работа папаў рымскіх, якія няраз пралівалі нявінную хрысьціянскую кроў дзеля пашырэньня свае каталіцкай экспансіі. Але, калі ў гэтай хатняй югаславянскай вайне пачалі гінуць і каталікі, дык папа Ян Павал II, 11-га ліпеня 1993 году, зьвярнуўся з заклікам спыніць этнічную барацьбу ў Босьніі. Гэта самае ён паўтарыў і на Каляды 1993 году. А 10-га верасьня мінулага году папа прыбыў у Загрэб дзе гаварыў аб міры, згодзе, узаемным прабачэньні, аб

пралітай нявіннай крыві і быццам у гэтай хатняй вайне рэлігія нічога ня мае супольнага. Але такі зварот-заклік папы ня можна разглядаць як шчырага, аб'ектыўнага арбітара, бо-ж праступная дзейнасьць каталікаў, ня толькі ў Харватыі і Босьніі, але ўсюды ёсьць скіравана супраць праваслаўных і вядзецца з блаславенства папаў рымскіх.

Немцы даўно ўжо прызналі свае праступствы ў час апошняй вайны і пакаяліся. Але Каталіцкая царква яшчэ да гэтага часу не прызнала віны сваіх ксяндзоў у адносінах да праваслаўных, цыганоў і жыдоў у былой фашыстоўскай дзяржаве Харватыі. Дык як ён можа прызнаць сваю віну, калі папа рымскі "насьледнік сьв. апостала Пятра", "сьвяты айцец" і да таго "непамыльны". Ён бачыць віну ўсіх, толькі не сваю.

Як піша Фрэд Сінглетон: "Праваслаўная Царква захавалася лепш за Рымскую Каталіцкую Царкву. Яна была ачолена патрыярхам, якога антыфашысцкае паводжаньне было бязгрэшным, і Царква, непадобна Рымскай Каталіцкай Царкве, не была ў ніякіх варожых зносінах за мяжой і таму была прызнана за нацыянальную Царкву. Яна не вяла рэлігійнай вайны супраць каталікаў нават у раёнах з большасьцю праваслаўных..." /"Твантыдз Сэнчэры Югаславія", стар. 201/.

Патрыярх Сэрбскай Праваслаўнай Царквы Гаўрыло падтрымаў сакавіковы пераварот у 1941 годзе супраць саюзу з гітлероўскай Нямеччынай. І калі немцы акупавалі Бялград, патрыярх не ўцёк, як гэта зрабілі кароль і міністры, або папскія біскупы з ксяндзамі ў Харватыі ў 1945 годзе. Сваё занятае становішча да акупантаў засталося нязьменным і за гэта немцы арыштавалі патрыярха і саслалі ў канцэнтрацыйны лагер Маўтгаўзэн і Дахаў. Лагеры яго не зламалі. Патрыярх вярнуўся дамоў і ў 1946 годзе ачоліў Праваслаўную Царкву ў Югаславіі.

Фактычна Каталіцкай царквы няма, а ёсьць "ватыканская царква", а Ватыкан - гэта гняздо палітыкі, дыпламатыі і інтрыгаў. І гэтым інтрыгам і правакацыі, з боку каталіцкіх іерархаў, няма канца. Для прыкладу пададзім вынятак з газэты "Ніва": "Інтэрв'ю з беластоцкім каталіцкім арцыбіскупам Станіславам Шымэцкім і яго супрацоўнікамі, якога аргументы мы прадставілі чытачам "Нівы", было нядаўна надрукованае ў каталіцкім часопісе "Госьць Недзельны". Выказваньні каталіцкіх іерархаў - гэта ўжо не толькі фальшаваньне гісторыі, але таксама паклёпы і абвінавачваньне праваслаўных і беларусаў у здрадзе дзяржавы /"оні сон на услугах Москвы"/... імкненьне да выклікаварньня нацыянальных і рэлігійных канфліктаў.

Паводле меркаваньняў беластоцкіх іерархаў, усе мы тут - праваслаўныя і беларусы - нашчадкі расейцаў, прывезеных сюды царскімі ўладамі на месца вывезеных у Сібір палякаў. І толькі ў 1989 г. - вядома, у выніку вонкавых інтрыгаў - некаторыя пачалі называць сябе беларусамі. Нягледзячы на тое, ці была тут царская ці камуністычная польская адміністрацыя, праваслаўнае насельніцтва заставалася маскоўскай агентурай. Польскае грамадства аказалася пад пагрозай /якой, невядома/. Урад да справы ставіўся абыякава, мясцовая і цэнтральная прэса нават спрыяла здраднікам і чужой агентуры. Бараніць польскасьць і хрысьціянства прыйшлося толькі Каталіцкаму касьцёлу...

Арцыбіскуп Шэмэцкі будзе вучыць сваіх вернікаў "што гэта абазначае быць сёньня хрысьціянінам". /"Ніва" № 43. Беласток 24 кастрычніка 1993 г. стар. 3/.

Вось гэта ёсьць навука "праўдзівай веры", якая ўмаўляе

свайму верніку ў Польшчы не любоў бліжняга, а ненавісьць да кожнага, хто не паляк і не каталік. Тут можна прывесьці словы Ларысы Геніюш: "О Рым, якога ксяндзы ня йдуць да нас з салодкім і вечна мудрым словам Божым і любоўю, а з палітыкай, з дэнацыяналізацыяй тых, якіх так намагаюцца, так хочуць вынішчыць як народ, як лепшыя людзі..." /"Споведзь" Мінск 1993 г. стар. 220/.

Аднойчы лонданская тыднёвая газэта "Гардіян Віклі" пісала аб польскім каталіцкім духавенстве ў Польшчы, што яно пасьля ўпадку камунізму знайшлося ў паважных цяжкасьцях. Сьвятары згубілі прэстыж, зьменшыўся наплыў студэнтаў у сэмінарыі, ды ўпала вера ў народзе. Людзі не зьвяртаюць увагу на забарону касьцёлам разводаў і абортаў, калі гэта не забараняецца законам дзяржавы. І таму, магчыма, каб дзейнасьць каталіцкіх ксяндзоў не агранічылася толькі да чатырох сьцен касьцёла, яны пачынаюць займацца палітыкай і то фальшывай.

Падобна піша ў рэдакцыю "Голас часу" наш суайчыньнік з Нямеччыны: "У канцы кастрычніка /1993 г./ Канстантынопальскі Патрыярх, Яго Сьвятасьць Варфаламей І, наведаў Нямеччыну. Што цікава. Яшчэ на пачатку кастрчыніка, калі ў Мюнхэне аднавілі сабор /катэдру/ Прэсь. Дзевы Марыі, то мюнхэнскі кардынал Фредрых Вэттэр заявіў, што ён – з нагоды так вялікага гасьця – "пазычыць" сабор на набажэнства для Усяленскага Патрыярха – як "экумэнічны жэст" у адносінах да праваслаўя. Трырскі /прагрэсіў/ каталіцкі тыднёвік /за 31. 10.1993 г./ даволі абшырна /з фоткамі/ замясьціў зацемку аб Варфаламею І.

Калі частка нямецкіх кардыналаў уважае Праваслаўную Царкву "сястрыцкай" і раўнапраўнаю, то польскі "попік" у Рыме /з інтэлектам ксянжулька з-пад Радомя ці Кельцаў/ лічыць, што "экумэнічнае аб'яднаньне" Рыму з Канстантынопалям будзе тады "сапраўдным", калі Праваслаўе падпарадкуецца... "рымскаму архіепіскапу – насьледніку апостала Пятра". Адна група кардыналаў і епіскапаў на чале з кард. Рацінгерам... коратка і ясна заяўляе, што ня можа быць ніякага "сястрыцтва", а толькі поўнае падпарадкаваньне. Такіх тупагаловых епіскапаў насаджвае Вайтыла ў Нямеччыне. Таму тут вялікае абурэньне з боку вернікаў. А епіскапы ў Баварыі і трырскі супраць такой палітыкі Ватыкану. Зразумела, што пры такім прымітыўным "намесьніку Хрыста на зямлі" трудна дагаварыцца. Дадам, што Евангеліцкія касьцельныя арганізацыі проста з вялікім уздымам віталі Патрыярха /і наш прэзыдэнт вон Вэйзсакэр – быўшы старшыня Рады Евангелікаў/. Папа мае шчасьце, што яшчэ не паявіўся ў радох каталіцкага клеру сьвятар тыпу Марціна Лютэра".

Ня так яшчэ даўно, у 1960 гадох, здавалася, што каталіцкая Царква ўзыходзіць на шлях саборнага яднаньня, што можна было бачыць па ходзе Другога Ватыканскага Сабора. Але гэты працэс паўстрымаў сучасны папа Ян Павал ІІ. Прычынай гэтаму паслужыў крызіс у якім знайшлася каталіцкая Царква і каб гэты крызіс не паглыбіўся, папа памінуў саборнасьць а вярнуўся да старой дактрыны.

Вяртаючыся да Югаславіі, шэф Басьсіоўні, прадстаўнік камісіі ААН для баданьня праступстваў у былой Югаславіі сказаў, што пачынаючы ад 1991 году, у паўстаўшай барацьбе страціла жыцьцё больш за 140 тысяч людзей /музулманаў, каталікоў і праваслаўных/. У параўнаньні да самых праваслаўных сэрбаў, якіх каталікі зьнішчылі ў час апошняй вайны ў адной толькі Харватыі, дык гэта лічба не такая вялікая.

Аб дзейнасьці харватаў замясьціла зацемку /"Народная газета" № 235 за 2 сьнежня 1993 г./ пад назовам "Змрочныя вынікі этнічнай чысткі ў Харватыі", дзе чытаем: "Этнічная чыстка ў Харватыі прывяла да выгнаньня 300 тысяч сэрбаў.

А гэтым гаворыцца ў паведамленьні міністэрства па справах правоў чалавека і нацыянальных меншасьцях Саюзнай Рэспублікі Югаславіі, распаўсюджаным у штаб-кватэры ААН у якасьці дакумента Генеральнай Асамблеі.

Прыняцьце Канстытуцыі Рэспублікі Харватыі ў 1990 годзе адзначаецца ў дакуменце, якое суправаджалася актыўнай кампаніяй па памяншэньню нацыянальнай ролі сэрбаў, уяўляе сабою акт дыскрымінацыі."

У такой перамешанай рознымі народамі краіне як Югаславія, нічога дзіўнага, што, каб захаваць мір, сэрбы былі зацікаўленыя ў захаваньні фэдэрацыі. Каля 15% сужэнстваў Югаславіі былі рознай этнічнай групы. Босьнія і Гэрцагавіна так перамешаныя, што цяжка назваць іх этнічнымі адзінкамі, а толькі па гістарычна-геаграфічнаму назову.

Многа сэрбаў жыло ў розных рэспубліках Югаславіі. Напрыклад, у Босьніі і Гэрцагавіне жыло 32%, у Харватыі - 15%, а таксама жылі сэрбы і ў другіх рэспубліках югаславянскай фэдэрацыі. Таксама розныя народы югаславянскай фэдэрацыі жылі і ў Сэрбіі. Так, як абавязкам кожнай дзяржавы ёсьць апекавацца сваімі грамадзянамі, таксама і Сэрбская Рэспубліка ў сваёй новай канстытуцыі ад 28 верасьня 1990 году адзначыла, што ўрад Сэрбіі ёсьць адказны за сваіх людзей на ўсёй тэрыторыі Югаславіі, паколькі канстытуцыя Рэспублікі Харватыі агранічыла правы сэрбаў. Але харваты з гэтым не пагадзіліся, яны хацелі, як і раней, у час вайны, падпарадкаваць сабе сэрбаў і зрабіць іх грамадзянамі другой клясы, а нават ахвярай.

Вынікам такой палітыкі харватаў, у Бялградзе і другіх гарадох Сэрбіі, пачалі ўзрывацца бомбы і рабіліся тэрарыстычныя акты. У такой рабоце харваты не былі адзінокімі, яны мелі падтрымку на Захадзе. Для сэрбаў нічога не засталося як толькі ўзяць зброю ў рукі, каб пазьбегчы тае масакры, якую ўчынілі пад імі харваты ў час другой Сусьветнай вайны ў сваёй незалежнай дзяржаве.

Як бачым, этнічная і рэлігійная ненавісьць паміж народамі Югаславіі нарастала на працягу гадоў і летам 1991 году выбухла ў хатнюю вайну. Гэта нагадвала для акружаючага сьвету небясьпечны канфлікт, які можа прыняць шырэйшы маштаб. Акрамя Харватыі, Босьніі і Сэрбіі, збройная барацьба можа ахапіць і другія дзяржавы Балканаў як Альбанію, Грэцыю і Балгарыю, якія даўно зацікаўленыя ў сэрбскай правінцыі Косава.

/Заканчэньне наступіць/ Юры Весялкоўскі.

## ГАЛАСЫ АБ "ВЯЛІКАЙ АЙЧЫННАЙ ВАЙНЕ"

## I

## УДЗЕЛ У ЁЙ САВЕЦКІХ І ПОЛЬСКІХ ПАРТЫЗАН

Немцы вялі бязьлітасную барацьбу супраць партызан, але адначасна зьвярталіся да іх з просьбай спыніць барацьбу. У заканчэньні адозвы генерал-паручніка паліцыі фон Готбэрга да партызан чытаем:

"Партызаны!

Пераходчыкі з Вашых радоў казалі нам, што Вы таксама хацелі-б да нас перайсьці, але думаеце, што будуць вас мучыць альбо забіваць. Я, як найвышэйшы шэф паліцыі гэтае

тэрыторыі, даю Вам сваё слова, што нікому з Вас, хто пяройдзе да нас з аружжам у руках, якая-колечы крыўда ня будзе зроблена.

Кожны можа свабодна выбраць, ці з сваёю сям'ёю застацца тут і працаваць пад нямецкай апекай, ці выехаць са сваёю сямёю на час трываньня вайны на працу ў Нямеччыну.

Сяляне і работнікі!

Вёскі, якія прыймуць бандытаў, будуць бязьлітасна бамбардаваны. Ратуйцеся, ратуйце свае сем'і, свае дамы і дабыткі! Памятайце ў адбудове Вашай Бацькаўшчыны, тады хутка скончыцца вайна".

Гэта самае паўтарыў у 1944 годзе прэзыдэнт БЦР праф. Радаслаў Астроўскі выступаючы на мітынгу ў Слуцку. На мітынгу прысутнічала каля 1000 асоб, а сярод іхі нямала партызанаў. Прысутнічалі на мітынгу ўсе немцы на чале з Гэбіткамісарам. Прамова Астроўскага цягнулася паўтары гадзіны. Ён зьвярнуўся і да партызан, кажучы: "Я пераконаны, што сярод тут прысутных нямала ёсьць і партызанаў, якія ці то прышлі на гэты мітынг з цікавасьці, ці мо' з заданьнем мяне забіць, бо тыя, хто паслаў іх сюды відавочна ня маюць іншых аргументаў апрача рэвальвэра ці гранаты...

Я ня маю да вас, партызаны, ніякай ненавісьці, наадварот я вельмі цаню вашую адвагу і вашую ахвярнасьць, бо-ж вашае жыцьцё ў лесе хіба незавіднае: і голадна, і холадна, і вошы заядаюць...

Магчыма, што гэта папярэднія памылкі, дапушчаныя нямецкім камандаваньнем, загналі вас у лес, але часы зьмяніліся... Ня думайце, што за тое, што вы партызаны вас будуць расстрэльваць. Не, я атрымаў запаўненьне ад генеральнага камісара, што кожны, хто здасьць аружжа дабравольна, зможа спакойна ісьці да свае сям'і і заняцца сваёю працаю. Паверце, што я вас заклікаю выйсьці з лесу не для таго, каб пасьля вас ашукаць. Я раблю гэта з поўнай адказнасьцяй за свае словы для вашага собскага дабра... Калі вы пераканаеце, што вашая акцыя прынясе шчасьце нашаму народу і вольнасьць нашай краіне, дык я тады сам перайду да вас, каб супольна біць і Сталіна і немцаў... але ў вас, партызаны, няма такіх аргумэнтаў, бо-ж за гэты час самі пераканаліся, што насланыя Сталінам партызаны больш аграбілі нашыя сёлы, чымся гэта зрабілі немцы. І таму я, такі самы верны сын Случчыны, як і вы, яшчэ раз заклікаю вас выйсьці з лесу і здаць зброю нашаму акруговаму афіцэру Беларускай Краёвай Абароне, які забясьпечыць вам свабодны паварот да вашых сем'яў.

Доўгія, гучныя, воплескі былі ўзнагародай для прамоўцы, а рэзультат такога выступленьня Р. А. быў надзвычайны: на працягу двох тыдняў выйшла з лесу болей чымсь 4.000 партызанаў, якіх беларуская адміністрацыя адаслала іх да сем'яў"./Тэкст гэтае прамовы сьпісаны мною з стэнаграмы аднаго карэспадэнта з "Беларускай газэты". /"Беларашa", Лондан, 1964 г./.

З гэтага факту можна ўявіць сабе, які быў "моцны дух" партызан, калі яны масава выйшлі з лесу і злажылі аружжа ў той якраз час, калі ведама было што немцы вайну прайгралі. І тут, пытаньне: што трымала гэтых людзей у лесе?

Ня ўсе партызаны цешыліся даверам сваіх камандзіраў. Пасьля вайны некаторых з іх улады разглядалі як былых калабарантаў, схаваўшыхся ў лесе, каб уратаваць сваю шкуру, засланіўшыся супрацiўленьнем супраць фашызму. Некаторыя з іх былі рэп-

рэсіраваны.

І яшчэ адзін прыклад савецкай прапаганда, якая зрабіла сталіцу Беларусі горадам героем. Але як падае Юры Туронак ў сваёй кніжцы: "Мінскі гарадскі камісар Бэкер са зьдзіўленьнем сьцьвярджаў, што 8000 жыхароў горада дабравольна, без прынукі выйшлі на пабудову ўмацаваньняў вакол горада перад наступам Чырвонай Арміі. Бэкер адзначыў, што 80% менчукоў "не віталі" набліжэньня савецкіх войскаў. Пэўная частка мясцовых жыхароў лепш згаджалася жыць у акупацыйных умовах і мець перад сабою імглістую нацыянальную перспектыву, чым апынуцца зноў у савецкай рэчаіснасьці. Такія ж настроі несьлі з сабой і ўцекачы ў усходу". /"Беларусь пад нямецкай акупацыяй", стар. 188/.

Я памятаю, як пакідалі мы Менск раніцай 29 чэрвеня 1944 г. і прайходзілі па яго вуліцах, дык некаторыя жанчыны, гледзячы на нас, маладых хлапцоў, плакалі.

Усім вядома аб баях пад Сталінградам /Волгаградам/ і перамозе Чырвонай Арміі. Толькі ня ўсе ведаюць якой цаной была асягнута гэтая перамога і які вялікі быў патрыятызм савецкага байца пад Сталінградам і наогул ў гэтай "Вялікай Айчыннай вайне". Савецкая прапаганда расхвальвала патрыятызм савецкага воіна і партызана, за якімі стаяў чэкіст з аўтаматам. Толькі цяпер мы даведваемся, што пад Сталінградам Чырвоная Армія страціла 1.1 мільён байцоў. Але што прыкра, як падаюць апошнім часам дасьледчыкі Інстытута Расейскай Ваеннай Гісторыі, што пад Сталінградам было растраляна найменш 13.500 байцоў за дэзэрцыю і здраду, якія адмовілі ваяваць. Так гэта чытаем у ангельскай газэце /"Ды Гардіян", 22.1.1993 г. стар. 10/.

Падобныя рэчы дзеяліся і на другіх франтох. Дысцыпліна ў радох Чырвонай Арміі была надзвычай суровая. Усякія нараканьні, або выказваньні незадаваленьняў адносна ўзбраеньня, харчаваньня ў параўнаньні да ворага, разглядаліся як варожая прапаганда. І часта за дробныя рэчы жаўнераў прыгаварываў Ваенны трыбунал да расстрэлу. Такая суровая дысцыпліна з карай сьверці мела служыць перасьцярогай для рэшты байцоў. Я памятаю, як у 1944 годзе расказваў адзін былы баец Чырвонай Арміі, калі немцы занялі Вязьму, дык адзін баец, які адтуль вярнуўся, далажыў лейтананту, што Вязьма ўзята немцамі. Лейтанант, доўга нечакаючы, выняў наган і тут-жа застрэліў байца, бо ён сеяў прапаганду.

Няраз чыталася ў камуністычнай прэсе, якія вялікія страты ў людзях панёс Савецкі народ у "Вялікай Айчыннай вайне" - 20-25 мільёнаў душ. Для прыкладу прывядзём Вялікабрытанію, якая ваявала даўжэй за Савецкі Саюз і ваявала яна на эўрапэйскім і афрыканскім кантанэнтах з немцамі, а ў Азіі - з японцамі, ды таксама на акіянах. І за ўвесь час вайны страціла 400 тысяч жаўнераў. Чым можна вытлумачыць такую розьніцу ў забітых ці загінуўшых у параўнаньні да Савецкага Саюза? Тлумачэньне тут вельмі простае. Жыцьцё чалавека ў Вялікабрытаніі цанілася як у мірны час, так і ў ваенны. Жаўнера не пасылалі сьлепа на сьмерць. Мясам не здабывалі пазіцыі праціўніка а прымянялі тэхніку. А ў Савецкім Саюзе было адваротна. Чалавек у камуністычнай сыстэме не прадстаўляў ніякай вартасьці.

Бальшавіцкая прапаганда пісала адно, а рабіла што другое. Вялася прапаганда за пашырэньне партызанскіх радоў на акупіраванай тэрыторыі немцамі, але дапамога партызанам была зьнікомая. Як прыклад, піша Мікалай Крукоўскі, доктар філасофскіх навук, прафэсар, былы начальнік штаба 2-ой Заслонаўскай брыгады: "Сталін вельмі насьцярожана адносіўся да партызан-

скага руху на Беларусі і яўна яму не давяраў. Яшчэ будучы ў складзе брыгады, мне здавалася, напрыклад, дзіўным, чаму нас так дрэнна забясьпечалі збродй, боепрыпасамі, медыкаментамі. Тол прыходзілася са страшэннай рызыкай выплаўляць з кінутых Чырвонай Арміяй артылерыйскіх снарадаў, зброя была пераважна знойдзена на месцы колішніх баёў". /"ЛіМ" № 25. 24 чэрвеня 1994 г./.

Гэта ніякая прапаганда, а яўны факт, што ўсе, хто жыў пад нямецкай акупацыяй, для Сталіна і ягоных падручных, былі людзі другога гатунку і для іх не магло быць ганаровага месца ў савецкай сыстэме. З аднаго боку камуністы расхвальвалі партызан, а з другога - стараліся іх пазбыцца. Як піша Іван Навуменка: "Горш таго: на падпольшчыкаў сталі навешваць розныя ярлыкі, прыніжаць іх. З партызанамі паступалі не лепш: яшчэ памятнай восеньню, калі мы толькі злучыліся з арміяй, іх, не абмундзіраваных, не ўзброеных, не абучаных, кінулі ў наступленьне на нямецкія дзоты. Без артылерыйскай падрыхтоўкі, танкаў. Большасьць партызан у тым наступе загінула...

Наогул у арміі многа людзей, якія былі ў акупацыі. Нават сувязісты групы бліжняй разьведкі - пераважна смаленская дзятва дваццаць шостага года нараджэньня. Пра акупацыю, аднак, хлопцы ні зыку. Яна нібы плямы на іх кладзе, прыніжае". /"Полымя" № 7. 1994 г. стар. 85/.

Калі ходзіць аб колькасьць жаўнераў, зброі і рэзэрвы, дык Чырвоная Армія мела найбольш як якая другая дзяржава ў сьвеце. Але як і ў папярэдніх войнах, Расея ня мела здольнага кіраўніцтва і гэты недахоп запаўняла маса пяхоты. Некаторыя немцы, навочныя сьведкі, расказвалі, як сплашныя фармацыі чырвонаармейцаў, падпітыя, з песьнямі ішлі на нямецкія ўмацованыя пазыцыі, а іх касілі з кулямётаў. І так было да канца вайны і таму страты сярод байцоў у забітых і параненых на фронце былі ў двайне большыя за немцаў.

Яшчэ да вайны ў Савецкім Саюзе было зьнішчана больш людзей як загінула на вайне. Па вайне, прыпадкова, я напаткаў у ангельскай газэце зацемку, што ангельцы ў час вайны зьвярнуліся да савецкага палкоўніка пры савецкай амбасадзе ў Лондане, каб саветы купілі ў іх прыладу да вышукваньня мінаў, што можа ўратаваць многа жыцьцяў савецкім жаўнерам. На гэта савецкі палкоўнік адказаў: "У нас многа людзей". І так было, што на замінованыя паля гналі "карныя батальёны", якія сваім целам ачышчалі паля ад мінаў, каб пасьля іх маглі прайсьці танкі. І аб гэтым чытаем: "Генерал М. Антоненка, намесьнік камандуючага І-м Беларускім фронтам па забясьпечаньні тылу, у 1985 г. на навуковай канферэнцыі з гонарам заявіў, што падчас Берлінскай аперацыі яго ведамству ўдалося "зьберагчы" вялікую колькасьць снарадаў. І гэта пры 100-тысячных людзкіх стратах у гэтай аперацыі. Каму і для чаго патрэбна такая "эканомія"? /"Беларускі Гістарычны Часапіс" № 2. 1994 г. с. 8/.

Таму мы маем 20 ці 27, а некаторыя дасьледчыкі падаюць 47 мільёнаў людзкіх ахвяр вайны і да таго камуністычную прапаганду - "Мы победили!" А пасьля вайны, кожны год напачатку ліпеня сьвяткуецца гадавіна вызваленьня Беларусі, або беларускага народу, з-пад фашыстоўскай акупацыі. Фактычна беларускі народ ня быў вызвалены, вызвалена была беларуская зямля старым акупантам ад новага. Аднак немцы не вывезьлі і ня зьнішчылі столькі беларусаў, колькі вывезьлі і зьнішчылі бальшавікі ў т. зв. "незалежнай дзяржаве БССР". Такое гэта было вызваленьне і такая гэта была незалежная дзяржава.

Толькі пасьля сьмерці Сталіна савецкая гісторыя прызнала, што "Адной з прычын недастатковай падрыхтаванасьці Савецкай Арміі да адпору ворага трэба лічыць няправільную ацэнку І. В. Сталіным ваенна-палітычнай абстаноўкі непасрэдна напярэдадні вайны. Сталін лічыў, што Германія ў бліжэйшы час не адважыцца напасьці на Савецкі Саюз". /"Гісторыя БССР" т. ІІ, стар.364/.

Як гэта вынішчалі камуністы людзей, дык прывядзём некаторыя даныя з артыкула Т. Раманькова "Са сьвятымі дай спачын":

"Нямецкая хроніка сьцьвярджала, што ў пачатку Вялікай Айчыннай вайны 4 мільёны нашых байцоў і камандзіраў трапілі ў палон. У нашым друку прайшла іншая лічба: 5 мільёнаў. Праўда, за ўсю вайну. З іх 3 мільёны не вярнуліся дамоў.

Нашаму земляку Льву Каваленку, ураджэнцу Асіповіцкага раёна, пашанцавала. Дадому ён вярнуўся. Але не адразу.

Спачатку было ваеннае вучылішча ў Мінску, дзе курсант Леў Каваленка быў выдатнікам. За гэта яго адпускалі ў звальненьні...

У самым пачатку вайны маладзенькі лейтанант быў паранены, ледзь выжаў. Раны гаіліся ў нямецкай турме ў Мінску. Пасьля вызваленьня горада зноў трапіў на фронт. І ў сьнежні 1944 года быў арыштованы. "Здрадніку" было ўсяго 22 гады. І яшчэ 12 спатрэбілася, каб вярнуцца з вайны дадому...

8 турмаў зьведаў Леў Каваленка, 4 гады знаходзіўся ў адзіночцы і ў камеры сьмяротнікаў. Пуцёўку ў асобарэжымны Запалярны Гарлаг атрымаў зноў за мінскімі кратамі.

Доўгі эшалон, набіты гэткімі ж, як ён, гаротнікамі, марудна цягнуўся да Енісея. У Краснаярск поезд прыпоўз на прадзімку, калі магутную раку - адзіны шлях у Запалярны Гулаг, ужо скаваў мароз. Давялося некалькі месяцаў чакаць навігацыі зноў у турэмнай камеры. Многія не дачакаліся, сканалі. А Льву Каваленку і тут пашэнціла: застаўся жывы. Як і на баржы, калі даведзеныя да роспачы вязьні прасьвідравалі некалькі дзірак, каб на дне Енісея скончыць свае пакуты. Ды пільны аказаўся канвой. Роспач прайшла. А жыцьцё засталося. Хоць і вельмі горкае.

У асобарэжымным Запалярным Гарлагу, што быў у 80 кіламетраў ад Дудзінкі, Льву Каваленку прысвоілі нумар ІІ-777. І пацяклі зэкаўскія будні...

Розныя гэта былі людзі, з рознай віной, а найбольш наогул невінаватыя. Перад вайной з 5 Маршалаў Савецкага Саюза загінулі 3, як і з 5 камандармаў ІІ рангу загінулі ўсе, як і з 16 армейскіх камісараў. З 57 камкораў загінулі 50, са 186 камдзіраў - 154. І нават з 456 палкоўнікаў лёг не ў акопах, а ў засьценках НКУС ажно 401. Праўду казаў К. Сіманаў: "Без 37-га не было б і 41-га". А не было б 41-га з яго чатырма мільёнамі палонных і тысячы такіх, як ён, у запалярным лагеры..." /"Магілёўская праўда" 23.6.1993 г./.

Як гэта неразважна гінулі часам жаўнеры ад агня сваіх, падае вэтэран апошняй Айчыннай вайны Е.Сокалаў: "13 жніўня 1945 г. на чацьвёрты дзень вайны з Японіяй, на маіх вачах 27 штурмавікоў "ИЛ-4" даслоўна сьцерлі з твару зямлі маньчжурскі горад Мулін за суткі да гэтага заняты войскамі 5-й ударнай арміі. 24 сьнежня 1943 г. каля беларускага гарадка Мораль тры нашыя дывізіі пасьля моцнай артпадрыхтоўкі перайшлі ў наступленьне і выбілі гітлероўцаў з іх акопаў і бліндажоў. А далей здарылася нешта неверагоднае: калі ўцалеўшыя фашысты ўцякалі, то не па іх, а па нашых афіцэрах і салдатах ударыла нашая авіяцыя і артылерыя. Можна ўявіць, што там дзеялася. Тры дывізіі былі зьмяшаныя з мерзлай зямлёй, зьнішчаны. І такіх дзіўных непаразуменьняў у гады

вайны было многа на ўсіх франтох, і пацьвердзіць гэта могуць усе астаўшыяся ў жывых.

Мы ваявалі крывёй, не шкадуючы сваіх людзей. Час зрабіць аналіз прычын такіх здарэньняў, каторыя належыцца аднесьці да цяжкіх ваенных праступстваў.

Калі ў нядаўняй вайне амэрыканскай арміі з Іракам амэрыканскія самалёты памылкова скінулі бомбы на сваіх і пры гэтым згінула тры амэрыканскія жаўнеры, уся Амэрыка адразу даведалася аб гэтым і народ запатрабаваў правесьці сьледзтва і пакараць віноўных. А мы? Зьмяталі з твару зямлі цэлыя гарады і дывізіі і ўсё гэта хавалася ў тайне... Народ павінен знаць, якой крывёй заваявалі мы перамогу ў той страшнай вайне. Колькі мільёнаў людзей загінулі дарма..." /"Московские новости" № 36/682/ 5 сентебря 1993 г./.

Вядома ўсяму сьвету якой крывёй была заваёвана свабода і аб гэтым мы згадаем яшчэ раз у наступным нумары нашага часопіса. Але прыкра тое, што яшчэ сёньня знайходзяцца людзі, якія адабраюць такія паводзіны камуністаў і хочуць вярнуць стары парадак.

/Працяг будзе. Пачатак у №№ 24-34/

Ю. Сьвяржынскі.

ГЕРОІ НАЦЫІ

У сорак трэцім выжылі,
Ад ран крывёй сьцякаючы,
У сорак шостым выжылі,
Плуг на сабе цягаючы,
А праз паўвека, старцамі
У сытых хлеба просячы,
Надзею выжыць страцілі
Ад крыўды і ад роспачы.

Ніл Гілевіч.

З ліста ў Рэдакцыю "Голас часу"

У 1989 годзе Альдона Папова і Галіна Сівалава адкрылі нядзельную беларускую школу пры расейскай сярэдняй школе № 37 у Вільні. Яны сабралі 35 вучняў 5-7 класаў і два разы ў тыдзень Сівалава выкладала беларускую мову, а Кардзіс вяла народныя промыслы: /вышыўка, маляваньне, працавала з саломкай/.

Гэтыя настаўніцы паставілі перад сабой мэту - адраджэньня беларускай культуры на Літве і падрыхтоўку новага сьвядомага пакаленьня беларусаў.

Школка праіснавала 1,5 гады, а потым быў арганізаваны факультатыў мовы пры школе № 37 і пры школе № 13. А ў 1992 годзе быў атрыманы дазвол на адкрыцьцё 1-га класа пры школе № 13, у 1993 годзе былі класы пры 2-х школах.

У 1993 годзе пры школе № 17 былі адкрыты з 5 па 11 класы. А ў 1994 годзе, нарэшце, мы атрымалі будынак зачыненага дзіцячага садку для адкрыцьця беларускай школы.

Урачыстае адкрыцьцё адбылося ў пачатку верасьня 1994 года. Зараз нашая школа працуе самастойна. Мы маем 140 вучняў, у нас ёсьць 12 класаў /1-12/, працуе каля 30 настаўнікаў. Калектыў узначальвае Галіна Сівалава.

Цяжкасьці ў нас вялікія - не хапае літаратуры /мастацкай/, няма дапаможнікаў, лабараторнага абсталяваньня, дапаможнікаў для вывучэньня замежных моў, лаціны, і інш. Увесь верасень працавалі па абсталяваньні будынка, каб у ім можна было вучыць дзетак. Зараз навучальны працэс ідзе. Але розныя недахопы не-

пакояць нас. Нам абяцалі дапамогу амбасада і Беларусь, але зараз такое становішча на Бацькаўшчыне, што ім не да нас.

Дзеці нашы праяўляюць зацікаўленасьць да беларускасьці, праўда, яшчэ ня ўсе размаўляюць па-беларуску, але жаданьне ёсьць.

Мы арганізуем імпрэзы, на якія запрашаем віленчукоў, беларусаў /старую інтэлігэнцыю/, былі сустрэчы з пісьменьнікам Васілём Быкавым, з прадстаўнікамі згуртаваньня "Бацькаўшчына", А. Мальдзісам і інш.

Вось такія нашыя справы. Мы ўпэўнены, што без школы, без падрыхтоўкі моладзі ніякага адраджэньня беларускасьці на Літве не адбудзецца.

Саўчанка Павал.

У сувязі з адкрыцьцём беларускай школы ў Вільні маецца і такі зварот дырэктара гэтай школы да Дарагіх Суродзічаў:

"Зь Вільні, зь Віленскай беларускай школы дасылаем мы Вам сваё шчырае прывітаньне. Нам прыемна паведаміць, што ад I-га верасьня сёлета ў нас адчыненая сапраўдная беларуская школа. У ёй вучыцца 140 дзяцей ва ўсіх класах ад I-й да 12-й. Настаўніцкі калектыў складаецца з 34 асобаў. Выбраны школьны Бацькоўскі Камітэт.

Дасталі мы сёлета й невялікі ўласны школьны будынак /мы, вядома, змагаліся за славутыя Базыльянскія муры, аднак літоўскія ўлады распарадзіліся іначай/.

У нашай школе ўсе прадметы будуць выкладацца на беларускай мове, больш глыбока будуць вывучацца гуманітарныя навукі. Мы плянуем пашырыць беларускае школьніцтва ў нашым краі, працаваць ня толькі зь дзецьмі, але і зь іхнімі бацькамі. Такім чынам нашая школа становіцца значным культурных асяродкам, ад каторага будзе залежаць посьпех беларускага адраджэньня ў Вільні.

Зрэшты, мы запрашаем Вас да сябе ў госьці, прыязджайце, калі ласка, пераканайцеся на ўсё самі.

Ведама, зьдзейсьніць задуманае, вытрымаць канкурэнцыю літоўскіх, польскіх ды расейскіх школаў няпроста. Таму даводзіцца нам прасіць дапамогі, у тым ліку і Вашай, шаноўныя суродзічы.

Па-першае, мы хочам, каб нашая навучальная ўстанова засвоіла лепшыя традыцыі беларускага школьніцтва, таму хацелі-б сабраць як мага болей матэрыялаў у гэтай галіне. Пры нашай школе мы будзем ствараць музей Віленскай Беларускай Гімназіі, Будзем зьбіраць і публікаваць мэмуары гімназічных настаўнікаў і вучняў. Будзем радыя, калі Вы зможаце нам дапамагчы чымсьці ў гэтым, альбо падкажыце, да каго б мы яшчэ маглі зьвярнуцца.

Па-другое, мы маем патрэбу ў добрай школьнай бібліятэцы, а яна яшчэ амаль пустая. Мы ведаем, што на эміграцыі было выдадзена нямала цікавых беларускіх кніжак і вельмі хацелі б узбагаціць імі нашую бібліятэку. Дарэчы, мы хацелі б кампляктаваць наш кнігазбор ня толькі беларускай літаратурай. Нашыя вучні вывучаюць ангельскую й нямецкую мовы, сусьветную гісторыю й культуру, таму нам вельмі прыдаліся б якіясь маляўнічыя, зьместоўныя кнігі, выдадзеныя ў Вашых краінах. Тут жа будзе дарэчы сказаць пра яшчэ адну просьбу. Мы б хацелі завязаць сталае супрацоўніцтва з навучальнымі ўстановамі ў Вашай краіне. Таму, калі ласка, пашырайце паўсюль інфармацыю аб Віленскай беларускай школе - можна, знойдуцца школы, што захочуць завязаць з намі сяброўства.

Па-трэцяе, нам, вядома, патрэбны грошы, каб ажыцьцявіць многія нашыя праекты. Натуральна, мы патрабуем грошы ад літоўскіх уладаў, просім іх і ў Беларускай дзяржавы. Аднак і ад-

ныя і другія чыноўнікі паглядаюць на нас скоса, бо ні адныя, ні другія не падзяляюць нашага патрыятызму. Таму й вымушаныя мы зьвяртацца да людзей, якія зразумеюць нас, бо ў іх самых баліць сэрца за беларускую справу. А выдаткі ў нас, асабліва цяпер, вельмі вялікія. Мы змушаны былі пазычыць грошы й купіць аўтабус, каб давозіць дзяцей з усіх куткоў Вільні. У будынку, які нам передалі, раней мясьціўся дзіцячы садок. Каб зрабіць зь яго нармальную школу, у час вакацыяў трэба будзе правесьці значную перабудову. Трэба забясьпечыць школу сучасным абсталяваньнем, праблемаў маем багата, але з Вашай падтрымкай патрапім перамагчы.

Напрыканцы нашага ліста яшчэ раз запрашаем Вас у Красную Вільню, "крывіцкую Мэкку", мы пастараемся зрабіць усё належнае, каб Вы пачувалі сябе тут утульна.

Дырэктар Віленскай беларускай школы
Галіна Сівалава.

Наш адрас:
Беларуская Сярэдняя Школа № 68
Sietyno 21
2050 Vilnius
Lithuania

Вашы грашовыя ахвяраваньні дасылайце, калі ласка, на гэты самы адрас з пазнакаю імя старшыні школьнага Бацькоўскага Камітэту: Тацяна Шмідт.

## БЕЛАСТОЦКІ ЛАГЕР - "ДАЛІНА СЬМЕРЦІ"

У канцы верасьня мяшаная ваенна-цывільная камісія, разглядзеўшы два маіх прашэньні аб звальненьні з лагеру /адно прашэньне было падана палкоўніку амэрыканскай місіі, аглядаўшай лагер/, звольніла мяне, і я з пасьведчаньнем і па бясплатнаму праяздному білету свабодным выехаў у Горадню на месца пражываньня. Цёпла прапусьціла мяне да варот наша кумпанія Гарадзенцаў, і я вольнай птушкай выляцеў за агараду лагеру.

У Горадні свабодным я пражыў толькі 5 дзён. На 6-ты дзень мяне, ня гледзячы на маё пасьведчаньне аб "вольнасьці і недатыкальнасьці маёй асобы", арыштавалі, пасадзілі нанач у халодны сарай, а а 10 гадзіне рана, наступнага дня, 6 жандараў павялі мяне на вакзал, а стуль цягнікам у Беласток у лагер "Разьдзельная", дзе і прыйшлося яшчэ праседзець і зьнясьці вялікія беды да пачатку лютага месяца 1920 г.

У лагеры я застаў гарадзенскага пратаярэя а. Карчынскага, паўторна арыштаванага таксама і запісанага ў адну са мной сапраўдзіцельную паперу.

Гарадзенскі старшыня Рогалевіч і кіруючы аддзелам інтэрнаваньня Зьбераньскі не пажадалі выпаўніць прыказ цэнтральнай улады аб маім звальненьні і сваёй панскай уладай сярэднявекавай шляхты самадурства захавалі мяне паўторна на доўгія месяцы ў злавонныя гнілыя казармы на цяжкія мучэньні і сьмерць, ад якой цудам якімсь толькі я спасься.

У беластоцкім лагеры яшчэ болей цяжкі малюнак жыцьця заключаных прадставіўся мне. У сырых, халодных бараках, на голых у два ярусы нарах, валяліся голыя і галодныя заключаныя. Бесперастанныя эпідэміі сыпнога тыфу, брушнога і зваротнага, крывавая дызэнтэрыя панавалі гэтта.

З кожным днём эпідэміі расьлі і пашыраліся. Асабліва вялікі працэнт захворваньняў і сьмяротнасьці стаў пры наступлень-

ні халадоў, каля пачатку лістапада.
Людзі буквальна гіблі, як мухі ў восень, і захварэўшым людзям удзялялася столькі-ж увагі адміністрацыяй лагеру, сколькі звычайна ўдзяляюць мухам, гібеючым у мухалоўках, - выкідаюць у сорную яму а ў мухалоўку ловяць новых мух, дзеля тэй-жа мэты.
Захварэў тыфам малады доктар, захварэў і памёр стары фершал, - захварэлі і памерлі дзьве сястры міласэрнасьці. І той слабы мэдыцынскі дагляд за хворымі, які час ад часу бываў, зьнік. Стала паміраць у дзень па 50 і 70 чалавек. /І.Г. Антонаў. "Успаміны аб польскай акупацыі Гарадзеншчыны ў 1919-1921 г.г."/ Выдадзена ў 1921 г. Захоўваецца мова аўтара.

/Пачатак у №№ 11, 13, 16, 20, 23, 24, 33/

## ХТО ВІНАВАТЫ?

Беларусы Вялікабрытаніі атрымалі запросіны ад Пасольства Рэспублікі Беларусь і Згуртаваньня Беларусаў Вялікабрытаніі на сустрэчу са Старшынёй Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Мечыславам Грыбам і членам Парламанта, пісьменьнікам Нілам Гілевічам, у культурны цэнтр імя Францішка Скарыны на 37 Гольдэн роўд, Лондан, на 7 гадзіну вечара, 8 сьнежня 1994 г.

Дзень гэты здаўся не зусім прыгожы. З самага ранку вялікі вецер з дажджом, што мала хто з хаты высадзіў за дзьверы нос. Але пад вечар дождж перастаў, сьціх вецер і вечар аказаўся даволі прыгожы.
Зьехаліся беларусы Лондану і прыехалі некаторыя нават з Бірмінгам, Сток он Трэнт, Ковэнтры, Рагбы і іншых гарадоў. Усе занялі свае месцы перад 7-ай гадзінай і чакаюць гасьцей. Час ідзе, а гасьцей не відно. Прайшло 15 хвілін, 30 хвілін і 45 хвілін, а гасьцей яшчэ няма. Адны глядзяць на свае гадзіньнікі, другія на дзьверы, скуль маюць паказацца госьці, трэція пачынаюць жартаваць, што ім ужо есьці задумоўваецца, а іншыя прапануюць, каб пачаць піць, што стаяла прыгатована на стале.
Дакладна за 10 хвілін да 8-ай гадзіны паказаліся госьці. Пакуль уселіся, пакуль іх прывіталі, дык была ўжо 8-я гадзіна вечара. З дакладам аб сучасным становішчы на Беларусі гаварыў Старшыня ВС РБ М. Грыб. На запытаньне аб беларускім нацыянальным гімне, якога Беларусь яшчэ ня мае, паясьніў пісьменьнік Н. Гілевіч.
Я ня буду застанаўляцца на выступленьнях гасьцей, але згадаю, што Старшыня Вярхоўнага Савету РБ гаварыў добрай беларускай мовай і прадставіў сытуацыю ў краі так, як яна выглядае ў сапраўднасьці. Толькі хачу выказаць тут незадаваленьні і нараканьні некаторых прысутных на залі, што ім прыйшлося чакаць амаль гадзіну часу на гасьцей.
Часам здараюцца прычыны, што сапраўды чалавек спазьняецца на вызначаны час, але не па сваёй волі і віне і тады яму прабачаецца. Але ў даным выпадку такое спазьненьне было зроблена сьведама. Госьці прыехалі раней, але імі заапекаваліся гаспадары і замест прывесьці іх у залю, дзе іх чакалі запрошаныя беларусы і іншыя, іх павялі паказаць Беларускую бібліятэку. Сталася нешта адваротнае. Замест таго, каб сьпярша адбыць спатканьне з людзьмі, а пасьля наведаць бібліятэку, ніхто аб гэтым не падумаў.
Справа ў тым, што беларусы Ангельшчыны не маладыя ўжо людзі, некаторым з іх, пражываючым у Лондане, займае больш за паўтары гадзіны часу, каб прыехаць у гэты беларускі цэнтр, а былі людзі і з другіх гарадоў Англіі. І калі скончыліся прамовы і адказы на пытаньні, было ўжо каля 10-ай гадзіны вечара

і некаторым людзям не было часу затрымацца на прыняцьці, трэба было сьпяшацца дамоў, каб пасьпець на гарадзкі транспарт.

Як у час чаканьня на залі, так і пасьля, у некаторых людзей пачалі паяўляцца розныя домысла. Быццам гэта было зроблена сьведама, каб агранічыць час на пытаньні. Асабіста я з гэтым ня згодзен, бо паслухаўшы выступленьні Старшыні Вярхоўнага Савету сп. М. Грыба і члена парламанту сп. Н. Гілевіча, я нічога не заўважыў, каб яны нешта скрывалі, ці ўнікалі пытаньняў, або вялі агітку. Тут была віна гаспадароў гэтага спатканьня, якія павялі гасьцей не туды, куды трэба было спярша іх завесьці. Ды і госьці павінны былі знаць, што яны прыехалі на спатканьне з беларусамі, а не на агляд бібліятэкі. Беларуская бібліятэка знайходзіцца пад бокам і ня воўк, што ўцячэ ў лес. На яе агляд можна было аддаць астаўшыйся вечар і нават усю ноч, а не трымаць людзей на залі ў чаканьні.

Калі пазьней я гутарыў тэлефанічна з адным галоўным кіраўніком Галоўнай Управы Згуртаваньня Беларусаў Вялікабрытаніі пра гэты вечар - спатканьне і згадаў яму, што прысутных людзей на залі патрактавалі дрэнна, дык ён мне адказаў, што яны маглі ехаць дамоў. Але-ж іх запрасілі на спатканьне, яны прыехалі, некаторым з іх каштаваў білет, бэнзына да машыны, а тут чалавек гаворыць, - маглі не чакаць, а ехаць дамоў. І калі я сказаў, што некаторыя з прысутных беларусаў ня мелі часу застацца на прыняцьці, каб больш пазнаёміцца з гасьцямі, дык і тут пачуў адказ: "Добра што паехалі дамоў". А ці было гэта добра ці дрэнна, - хай судзяць чытачы.

Юры Весялкоўскі.

## РУХ НЯНАВІСЬЦІ І ХЛУСЬНІ

Народны рух Беларусі - што гэта такое?

Мінула нямала часу, калі ў Беларусі частка "вечна ўчарашніх" адмовіўшыся ад ранейшага найменьня, утварыла чарговае грамадзка-палітычнае аб'яднаньне - "Народное движение Беларуси". Даўняя бальшавіцкая традыцыя пераўтварэньня грамадзкага жыцьця ў барацьбу класаў і ідэалогій, якая ідзе з часоў франтоў грамадзянскай вайны супраць усяго народа, фронту барацьбы за калектывізацыю супраць сялянства, фронту барацьбы з "нацыяналізмам" супраць беларускай - і не толькі - інтэлігэнцыі і інш., прыпыніла, як вядома, эканамічнае, сацыяльна-палітычнае і культурнае разьвіцьцё народаў былога СССР на дзесяткі год, але знайшла ўвасабленьне і ў сёньняшняй рэальнасьці рэспублікі. Гаворка ідзе пра ўтварэньне своеасаблівага фронту ненавісьці і хлусьні, найбольш прыдатнага ва ўмовах, калі не існуе больш СССР і КПСС - КПБ, для барацьбы за ўвасабленьне ідэалаў сталінска-брэжнеўскага сацыялізму, аднаўленьне таталітарнага рэжыму і выкрыцьцё іншадумцаў-дэмакратаў.

Чаму фронт нянавісьці? Бо такая прырода "вечна ўчарашніх": ненавідзець усіх, хто дазваляе сабе думаць і дзейнічаць інакшай, чым прыхільнікі "адзіна правільнага вучэньня. Нянавісьць гэта "адрасавана" тым, хто імкнецца да ўстанаўленьня новага канстытуцыйнага ладу ў рэспубліцы і пабудовы незалежнай дэмакратычнай беларускай дзяржавы, да эканамічнага разьняволеньня працаўніка і стварэньня ўмоў, каб ён стаў заможным, а таму і вольным, да адраджэньня нацыянальнай культуры і беларускай мовы.

Чаму фронт хлусьні? Бо ня могуць тыя, хто крывавіў народы і хлусіў дзесяцігодзьдзямі, гаварыў праўду. Жыць па праўдзе ўласьціва тым, хто ведае цану людзкасьці і маральнасьці. Хіба не грунтуецца на хлусьні дзейнасьць тых, хто сьцьвярджае, што

беларускага народа няма, а ёсьць насельніцтва паўночна-заходняга краю? Хто ня здольны "прачытаць" праўдзівую гісторыю Беларусі, абмяжоўваючыся інтэлектуальным набыткам сталінскага "кароткага курса" або "адкрыцьцямі" ўчарашніх і сёньняшніх аракулаў імперскай расейскай мінуўшчыны? Хто, аднойчы выракшыся свайго народа, называе сябе яго абаронцам? Хто, гаворачы пра сацыяльную абароненасьць працоўных, стварае "ценявую" эканоміку, заснаваную на карупцыі, раскраданьні агульна-народнай маёмасьці і бяспрыкладным падмане грамадзян Беларусі?

Аднак хто ж яны, "айцы" фронту нянавісьці і хлусьні? Былыя наменклатурныя работнікі КПБ і выпешчанага ёю дзяржаўнага апарату, сёньняшнія ўласьнікі "грашовых мяшкоў" нажытых з выкарыстаньнем карумпаваных наменклатурных сувязей і сумніцельных па паходжаньні пачатковых капіталаў. Да іх прымкнулі прыхільнікі зьдзічэлага расейскага шавінізму і гвалтоўнай "панславянізацыі" беларусаў, безумоўна ж, пад сьцягам "старэйшага" брата. Не маглі пакінуць рух без падтрымкі некаторыя ветэраны карных сталінскіх органаў - камерсанты, узброеныя капіталамі былой КПСС - КПБ альбо створанымі шляхам антынароднай наменклатурнай "прыхватызацыі".

Што і казаць, знаёмыя ўсе твары, як і знаёмыя ідэі. Рух нянавісьці і хлусьні добра вядомы грамадзянам Беларусі. Гэта тыя, хто называе сябе абаронцам сацыяльных правоў працоўных, а імкнецца пазбавіць рабочых права на атрыманьне ўласнасьці ў выніку прыватызацыі, сялян - права на зямлю, інтэлігэнцыю - права зарабіць на дастойнае чалавека жыцьцё.

Хто, набраўшыся камерцыйнага "свербу", гандлюе не толькі талентам і працай народа, але нярэдка і радзімай, ствараючы біржы, банкі, выдавецтвы, пасрэдніцка-рабаўніцкія фірмы, якія разбэшчваюць грамадзкую мараль, распаўсюджваючы парнаграфію, кічкультуру, ды пацiху фінансуюць дзейнасьць палітычных структур, вядомых варожым стаўленьнем да дзяржаўнага і нацыянальна-культурнага адраджэньня Беларусі.

Хто, выкарыстоўваючы сваё службовае становішча дзяржаўнага чыноўніка, за "ўзнагароды" дазваляе "прыхватызаваць" тое з дзяржаўнай маёмасьці, што патрапляе прагным дзялкам пад спрытныя рукі.

Хто мае на мэце аднавіць дзейнасьць злачыннай КПСС - КПБ і адрадзіць СССР пад абалонкай "новай канфедэрацыі".

Хто, волею лёсу распараджаючыся большай часткай інфармацыйнай прасторы Беларусі, дзейнасьць якой аплачана з бюджэтных сродкаў, імкнецца ўсяляк выцесьніць з яе слова праўды і дзяржаўную мову. Гэта тыя, для каго размаўляць і пісаць пабеларуску горш, як есьці хрэн без сала. Хто пацiху пераўтварае шэраг установ культуры і некаторыя творчыя саюзы Беларусі ў дамы гандлю і паслуг. Хто слова Божае нясе да людзей на чужой ім мове, выконваючы гэтым палітычны заказ той ці іншай структуры суседніх дзяржаў. Якая вера, калі сьвятар служыць не Богу, а замежным палітыкам?

Гэты пералік можна працягваць. Аднак важней удакладніць: якія сацыяльныя групы насельніцтва Беларусі могуць падпасьці пад уплыў азначанага руху? Гэта значная частка кіруючага складу дзяржаўных прадпрыемстваў і калектыўных гаспадарак: тыя групы рабочых і служачых, якія прывыклі мала працаваць, але атрымоўваць гарантаваную мінімальна-дастатковую для задавальненьня жыцьцёвых патрэб зарплату; пэўныя колы ветэранаў-пенсіянераў і афіцэраў-адстаўнікоў; невялікая частка сялян, якіх магчымасьць напаўпрацы-напаўгультайстве ў калгасах-саўгасах задавальняе. Да іх ахвотна далучаюцца, незалежна ад сацыяльнага паходжаньня і палітычных перакананьняў, людзі, якія не могуць прыняць самую ідэю дзяржаўнасьці Беларусі і звыкнуцца з новай сацыяльнай зьявай; нацыянальна-культурным адраджэнь-

нем Бацькаўшчыны.

Адзначаны рух актыўна дзейнічае над увасабленьнем сваіх ідэй, спадзяючыся, што настане час для захопу ўлады і аднаўленьня антыдэмакратычнага рэжыму ў рэспубліцы. Пажадаем яму няўдачы, як і ў жніўні 1991 года альбо ў кастрычніку 1993-га.

Разам з тым, як да магчымага варыянту барацьбы за ўладу, фронт нянавісьці і хлусьні рыхтуецца і да будучых выбараў у Саветы народных дэпутатаў, спадзяючыся на набыты за дзесяцігодзьдзі багаты вопыт сацыяльнай дэмагогіі, на грашовыя мяшкі схаваных партыйных фінансавых сродкаў, укладзеных да пары да часу ў камерцыйныя структуры, а таксама на падтрымку наменклатуры ў цяперашніх структурах улады.

Рэальна процістаяць фронту аб'яднанай рэакцыі можа згуртаваньне дэмакратычных палітычных партый і рухаў. Палітычнай асновай для такога аб'яднаньня павінна быць праграма ўмацаваньня дэмакратычнай незалежнай беларускай дзяржавы, разьвіцьця шматукладнай эканомікі на грунце суіснаваньня розных формаў уласнасьці, шырокага забесьпячэньня асабовых і сацыяльных правоў чалавека. Гэтыя ідэі цяпер блізкія да ўвасабленьня, пацьверджаньнем таму служыць дзейнасьць шэрагу апазіцыйных партый і рухаў Беларусі. Больш за ўсё фронт нянавісьці і хлусьні баіцца праўды і салідарнасьці людзей, якім дарагія ідэалы свабоды, народаўладзьдзя, эканамічнага і нацыянальна-дзяржаўнага адраджэньня Бацькаўшчыны, бо з увасабленьнем гэтых ідэалаў гэты фронт немінуча адыдзе ў бясслаўнае забыцьцё. І гэты час недалёка. /"Менская Грамада" № 1/6/ ліпень 1994/.

## СУПРАСЛЬ - ЦЭНТР КНІЖНАЙ ПІСЬМЕННАСЬЦІ

1. Супрасльскі Благавешчанскі манастыр займае асобае месца ў гісторыі царкоўна-рэлігійнага жыцьця Беларусі, Падляшша, Вялікага Княства Літоўскага і Рэчы Паспалітай. Абумоўлена гэта не толькі своеасаблівым местазнаходжаньнем манастыра на мяжы суіснаваньня розных этна-культурных і палітычных тэндэнцый, сувязямі з Польшчай, Украінай, цэнтрамі паўднёва-славянскай і заходне-славянскай культуры, але і высокім духоўным і культурным узроўнем манастырскага духавенства, тагачасных духоўных і сьвецкіх ктітараў. Без іх намаганьняў было б немагчыма ў адносна пераферыйнай частцы дзяржавы заснаваць манастырскі прыстанак, які адразу стаў у шэраг найбольш буйным манастыроў ВКЛ па сваім матарыяльным становішчы, духоўнаму узроўню, багацьцю царкоўных упрыгожаньняў, кніжных збораў, агульнакультурнаму значэньню.

2. Пасьлядоўныя вопісы бібліятэкі Супральскага манастыра XYI-XYII стст. і больш позьніх часоў даюць унікальную магчымасьць дасьледаваць эвалюцыю кніжнай пісьменнасьці манастыра, пераемнасьць і разьвіцьцё старажытнаславянскіх традыцый, рэфармаваньне кніжных збораў, уплыў грамадска-палітычных і царкоўна-рэлігійных фактараў.

3. Разнастайныя дакумэнтальныя і наратыўныя крыніцы сьведчаць аб актыўнай дзейнасьці манастырскага скрыпторыя ўжо ў першай палове XYI ст., царкоўна-рэлігійных і культурна-ідэалагічных тэндэнцыях у манастырскім кнігапісаньні /пасланьні архімандрыта Кімбера да мітрапаліта, дзейнасьць інака Арсенія, успаміны Сымона Будная ў прадмове да лоскага выданьня Новага запавету 1574 г. і інш./.

4. Значная частка былых кніжных збораў захавалася да нашага часу, што дазваляе дасьледчыкам не толькі рэканструіраваць

кніжна-пісьмовую спадчыну Супральскага манастыра /выявіць арігінальныя творы, уплывы, духоўныя сувязі, асаблівасьці кніжнага мастэрства/, але і вызначыць яго месца ў культурна-гістарычным працэсе, культурна-асьветніцкую і царкоўна-рэлігійную ролю ў духоўным жыцьці краіны ў розныя гістарычныя перыяды.

Г. Галенчанка
Старшы навуковы супрацоўнік
інстытута гісторыі АН Беларусі.

## "ШЛЯХ" - НЕЗАЛЕЖНАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЭТА БЕРАСЬЦЕЙШЧЫНЫ

Вось такую газэту № I/I2/ лістапада I994 г. атрымала рэдакцыя "Голас часу". Па сваім зьместу газэта цікавая. Канцэнтруецца пераважна падзеямі на Берасьцейшчыне, але парушае і агульныя жыцьцёвыя праблемы Беларусі. У сваім слове "Да чытача" чытаем:

"Нас заснавальнікаў газеты "Шлях" і рэдакцыю, яднаюць такія паняцьці як Адраджэньне Беларусі, незалежнасьць, дэмакратыя, адкрытае грамадзтва, правы чалавека. Усё гэта і стане прыярытэтам газэты, тэмамі артыкулаў, карэспандэнцыяў, развагаў".

Рэдактарам газэты зьяўляецца Павал Цунік. Застаецца толькі пажадаць Рэдактару і яго супрацоўнікам посьпехаў і ніякіх перашкодаў на выбраным "Шляху".

Рэдакцыя "Голас часу".

Віншую сп. Юрыя Весялкоўскага,
яго супрацоўнікаў і нашых землякоў у чужыне.

## З НОВЫМ ГОДАМ!

З Новым Годам і надзеяй
На жыцьцё ды лепшы час,
Прамінуць няхай завеі,
А цяпло не міне Вас.

Дай здароўя Бог і волю
Зерня сеяць, жыта жаць
І каб ворагам ніколі
Нашу зямлю не таптаць.

І зьлятайцеся да хаты
Усе саколы і арлы,
Каб наш край адбудаваці,
Вы хоць трохі памаглі.

Час вярнуцца ўжо да хаты,
Досьць на чужыне жылі,
Вы як вера і надзея,
Каб у горы памаглі.

Вы прыедзце не у госьці,
А тут жыць і працаваць,
Вас не я, Радзіма просіць,
Час прыйшоў Край аднаўляць!

Сьнежань I994 г. Надзя Дземідовіч.

Рэдакцыя "Голас часу" дзякуе сп-ні Надзі Дземідовіч за такі прыгожы верш, толькі зьдзейсьніць выказаныя жаданьні аўтара, мы не ў сілах.

ДА ПАВАЖАНЫХ ЧЫТАЧОЎ "ГОЛАС ЧАСУ"

Шчырае беларускае дзякуй усім тым асобам, якія з нагоды Калядніх сьвят і Новага 1995 Году прыслалі свае шчырыя пажаданьні рэдактару і яго супрацоўнікам. На жаль, часопіс "Голас часу" спыняе свой выхад. Выдадзены будзе яшчэ адзін нумар за травень-чэрвень г.г. На гэту тэму будзе сказана коратка ў апошнім нумары. Можа ён выйсьці крыху пазьней, або ня так акуратна, бо вясной гэтага году канчаецца кантракт вынанятай машыны да кап'яваньня і гэта можа ўскладніць нармальны выхад.

Цяпер зьвяртаюся да тых чытачоў "Г.Ч." у Англіі, якія залягаюць з аплатай, каб неадкладна прыслалі належнасьць за часапіс. Царкоўны камітэт Сьв. Еўфрасініі Полацкай выдаткаваў каля двух тысяч фунтаў кожны год на выдачу часопіса, так што прашу аплаціць належнасьць. Ёсьць беларусы, якія маюць аплочану прэнумэрату наперад. Фактычна ім належыць вярнуць грошы. Але паколькі часапіс фінансаваўся Царквой, гэтыя грошы могуць застацца як ахвяра на Царкву.

Гэта было-б стольк на сёньня.

З пашанай,

Рэд. Юры Весялкоўскі.

<u>З ПРЭСЫ БЕЗ КАМЭНТАРЫЯЎ</u>

ЧАМУ ЛУКАШЭНКА НЯ ЛЮБІЦЬ БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ?

I сьнежна прэзыдэнт Лукашэнка, выступаючы на сэсіі Гомельскага гарсавету, патлумачыў дэпутатам, чаму ён не гаворыць па-беларуску.

"Людзі, якія размаўляюць на беларускай мове, ня могуць рабіць нічога, як толькі размаўляць на беларускай мове. Таму што па-беларуску нельга выказаць нешта вялікае. Беларуская мова - бедная мова. У сьвеце існуе толькі дзьве вялікія мовы-гэта расейская і ангельская", - кампэтэнтна адзначыў Аляксандар Рыгоравіч.

Пасьля гэтых словаў, якія гучалі з вуснаў прэзыдэнта, мне стала няёмка і крыўдна за нашу Бацькаўшчыну. Не разумею, як можна так зьневажаць мову сваёй дзяржавы, тым больш, калі ты зьяўляешся ейным вышэйшым кіраўніком. Можна ўявіць, колькі б пратрываліся на пасадах прэзыдэнты Францыі ці Фінляндыі, калі б хто-небудзь з іх так абразьліва выказаўся пра мову сваёй краіны. /"Свабода" № 46. 6 - I2 сьнежня 1994 г./

ПРЭСА, ЭФІР, МОВА

"Чым хутчэй мы пераадолеем свой беларускамоўны нігілізм, тым хутчэй станем цывілізованай нацыяй, здабудзем аўтарытэт, а разам з ім і павагу ў сьвеце. Таму неабходна як мага хутчэй пакласьці канец усялякага роду квазінавуковым публікацыям - і зноў-такі часьцей за ўсё ў рускіх газетах - аб нібыта не самабытным характары беларускай мовы, што яна з'яўляецца нейкім прыдаткам, дыялектам рускай ці польскай.

Прынцып павінен быць такі: пра беларускую мову альбо нічога, альбо толькі ў станоўчым плане". /"ЛіМ" № 39. 30 верасьня 1994 г./.

БЕЗ ЯЗЫКА НЕТ НАРОДА, НЕТ НАЦЫI

Именно так сказала в одной из недавних московских радиопередач Валентина Васильева Бурцева. Мысль не новая, но она глыбоко запала мне в душу. И не только потому, что это так и есть, а еще и потому, что хороший урок нашим, простите, лени-

вым "братьям меньшим" дала москвичка. Это урок тем, кто из-за малограмотности предательски-продажным путем зарабатывает свои сребреники.

В. Бурцева знает, что Москва еще в XIУ-XУ веках пользовалась такимі словами, как "бацька", "сенцы", "хлеў","мытны падатак" и тд.

Написал по-руски, чтобы все мои оппоненты прочитали"./"Народная газета" № 195. 18 кастрычніка 1994 г./.

В. САВАНОВИЧ.

ІДЭНТЫЧНАСЬЦЬ - КУЛЬТУРА - АДУКАЦЫЯ

... Дзякуючы падтрымцы Фонда Сораса мне ўдалося прыняць удзел у гэтай сустрэчы філосафаў сьвету /у Лювэне, Бэльгія 17-20 жніўня 1994 г., у якой брала удзел 140 навукоўцаў/ і выступіць з дакладам "Нацыянальная ідэнтычнасьць як адукацыйная праблема: на шляху да нацыянальнай сістэмы адукацыі ў Беларусі" /Нашонал Айдэнтыты эс Эдукэйшанал Проблем: Тувардс а Нашонал Сыстэм оф Эдукэйшэн ін Беларусь/. Даклад, які з'явіўся абагульненьнем дасьледваньняў філасофаў і гісторыкаў Нацыянальнага інстытута адукацыі, выклікаў ажыўленую дыскусію; яна выйшла далёка за межы чыста адукацыйных праблем..."/"Адукацыя і выхаваньне" № 11/35/ 1994 г. стар. 124/.

Т. М. Буйко,
кандыдат філасофскіх
навук, старшы навуковы
супрацоўнік
Нацыянальнага інстытута адукацыі

БЕЛАРУСКІ КАМІТЭТ САЛІДАРНАСЬЦІ З СЕРБАМІ І ЧАРНАГОРЦАМІ ЗАКЛАПОЧАНЫ ЛЁСАМ ЮГАСЛАВІІ

Як стала вядома, Беларускі камітэт салідарнасьці з сербамі і чарнагорцамі накіраваў міністру замежных спраў У. Сянько і міністру зьнешнеэканамічных сувязей М. Марынічу зварот. У ім, у прыватнасьці, гаворыцца аб тым, што хоць Беларусьсю і ўстаноўленыя дыпламатычныя адносіны з Югаславіяй, але ж актыўнасьці беларускага боку ў гэтым напрамку не назіраецца. Члены камітэта таксама лічаць, што наша краіна, як член ААН, павінна не дапускаць бамбардзіровак авіяцыяй НАТО сербскага боку, таму што гэта вядзе да гібелі мірных жыхароў. У звароце адзначана, што трэба дабівацца ліквідацыі эканамічнай блакады Югаславіі. /"Звязда" № 240. 24 лістапада 1994 г./.

Юрась НАВУМЕНКА.

ЦІ МАГЧЫМА КАМУНІСТЫЧНАЯ РЭВАЛЮЦЫЯ?

Гэтае пытаньне, а таксама іншыя, скажам,- ці правільна называць пераварот у кастрычніку 1917 года "Вялікай кастрычніцкай рэвалюцыяй", якія прычыны і фактары спарадзілі яго - сталі тэмамі абмеркаваньня на дыспуце, што адбыўся 3 лістапада ў педінстытуце. Мясцовыя камуністы спрабавалі надаць гэтай імпрэзе характар перадкастрычніцкага "урачыстага сходу", ды іхняя задума парушылася.

Невялікую аўдыторыю, прыкладна з 20 чалавек, склалі ў асноўным прыхільнікі камуністычнай ідэі, а тыя некалькі студэнтаў, што завіталі сюды, сталі разыходзіцца літаральна праз 15 хвілінаў, згубіўшы цікавасьць. Тым ня менш, паслухаць было што. Выступалі навукоўцы, якія разглядалі тэмы з розных пунктаў гледжаньня. Да прыкладу, дацэнт БрДПІ Аляксандр Грыбко адзначыў, што камунізм і фашызм - істотна не адрозьніваюцца,

бо дзеці аднае маці - таталітарызму. Камуністы горада абвяргалі гэтую тэзу. Добра, хоць у цывілізаванай форме". /"Шлях" № I/I2/ лістапад I994 г./.

УШАНУЕМ РОДНУЮ МОВУ

Усё нахабней паводзяць сябе тыя, хто выступае супраць дзяржаўнасьці беларускай мовы, патрабуе адкрыцьця рускамоўных класаў, нягледзячы на тое, што ў Мінску з 216 школ набор у беларускамоўныя класы вядуць толькі I45 школ, што ў сталіцы рэспублікі няма ніводнай поўнай беларускай школы, ніводнай беларускай АНУ.

З мэтай карэннага павароту грамадства да нацыянальных каштоўнасьцей, сапраўднага адраджэньня беларускай мовы, культуры, школы сябры камісіі па культуры, што з'яўляюцца прадстаўнікамі БНФ /Беларускага народнага фронту/. ТБМ /Таварыства беларускай мовы/ НДПБ /Нацыянал-дэмакратычнай партыі Беларусі/, ГБК /Гарадскога бацькаўскага камітэта беларускамоўных класаў/, ЗБШ /Згуртаваньня беларускай шляхты/, Краязнаўчага таварыства, БДАВ /Беларускага дэмакратычнага аб'яднаньня вэтэранаў/, клуба "Спадчына", Мартыралога Беларусі, творчай суполькі мастакоў "Пагоня", стварылі каардынацыйны камітэт па абароне беларускай мовы.

Сябры каардынацыйнага камітэта лічаць, што новаму ўтварэньню хопіць моцы, каб супрацьстаяць чарговай плыні русіфікацыі, што беларусы, як калісьці і чэхі, змогуць выратаваць і сьцьвердзіць на сваёй зямлі багатую старажытнейшую родную мову.

Каардынацыйны камітэт адкрыты і запрашае да супольнай працы ўсе грамадскія, патрыятычныя арганізацыі краіны. Кантакты тэлефон - 33-50-I2 /"Нараодная газета" № 3. 4 студзеня I995/.

"ЗАЛАТЫЯ" РЭКОРДЫ

У апошні дзень чэмпіянату сьвету па цяжкой атлетыцы, які праходзіў у Турцыі, зноў блісну ў сваёй сілай і майстэрствам славуты беларускі штангіст, двухразовы алімпійскі чэмпіён Аляксандр Курловіч. Ён заваяваў тры залатыя ўзнагароды і ўстанавіў тры новыя сусьветныя рэкорды. Вось яго вынікі: рывок- 205 кг. штуршок - 252,5 і сума - 457,5 кг.

Зборная Беларусі на чэмпіянаце заняла шостае каманднае месца. /"Мінская праўда" № I29 I сьнежня I994 г./.

ЦЯЖКАЯ МІСІЯ НОВАЙ КАМІСІІ

Кабінэт Міністраў Рэспублікі Беларусь прыняў распараджэньне аб стварэньні камісіі па вывучэньню становішча нацыянальных меншасьцей у рэспубліцы і беларускай дыяспары ў блізкім замежжы.

Камісіі, якую ўзначаліў намесьнік прэм'ер-міністра Рэспублікі Беларусь Віктар Ганчар, даручана ў трохмесячны тэрмін прадставіць у Кабінэт Міністраў запіску аб праблемах нацыянальных меншасьцей ў рэспубліцы, а таксама беларускай дыяспары ў блізкім замежжы з прапановамі па іх вырашэньню.

Прэс-служба Кабінета Міністраў Рэспублікі Беларусь.

АТРАД самааховы, у складзе якога больш за 200 добраахвотнікаў, створаны ў Малатковічах, пад Пінскам. Ён дапамаган міліцыі бараніц грамадскую і асабістую маёмасьць ад злодзеяў. /"Голас Радзімы" № 52. 29 сьнежня I994 г./.

# З Ь М Е С Т




РЭДАГУЕ РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ

Рэдактар Юры Весялкоўскі

Тэхічны супрацоўнік Уладзімір Грэмяка

Адрас рэдакцыі:

74 Netheravon Road
London W 4 2NB
ENGLAND

Цана часопіса: 2 фунты ў Англіі, 3 долары ў ЗША.